нацыянальнага быцьця спалучае ў сваіх межах, між іншага, такія вызначальныя паняцьці сацыякультурнага, грамадзкага і эстэтычнага кшталту, як нацыянальная ідэя, нацыянальны характар і мэнталітэт, духоўны ідэал, духоўны воблік героя, сацыяльныя і духоўныя сувязі ў грамадзтве, грамадзянскі патас, карціна мінулага і сучаснага краіны і народа (у эвалюцыйнай і гарманічнай пэрспэктыве), вызначальныя архетыповыя катэгорыі (вобразы шляху (дарогі), ростані-раздарожжа, зямлі, "раскіданага гнязда", "дваеньня душы", выпрабаваньня-ўзыходжаньня на лёсавую гальготу, сьцяны-перашкоды і інш.). У гэтым зьвязку ўзьнікае неабходнасьць канвэнцыйнага разьмежаваньня архетыповых (не блытаць з архетыпічнымі, утворанымі ад паняцьця "архетып") катэгорый зь міталягемамі, бо ў беларускім літаратуразнаўстве нерэглямэнтаванае зьмяшэньне іх адбываецца татальна. Міталягема – гэта ўвасабленьне ў мастацкай прасторы важнейшых архетыпічных катэгорыяў, а архетып высьвечвае сувязь зь міталягічнай памяцьцю. У падаснове міталягемы – міталягічная сітуацыя, міталягічная "фактура", "фактура" ж архетыповай катэгорыі як складніка мастацкай мадэлі нацыянальнага быцьця – прадукт уласна мастацкай творчасьці, яе тыповыя, характаралягічныя і знакавыя прыкметы, што выяўляюцца на працягу эвалюцыйнага разьвіцьця пэўнага віду мастацтва (у нашым выпадку – літаратуры).

Мастацкая мадэль нацыянальнага быцьця – гэта рэпрэзэнтацыя ў мастацкіх тэкстах нацыянальнага космасу, гэта рухомая на роўні ідэйна-мастацкага і жанрава-стылёвага вырашэньня, але ўстойлівая і фундамэнтальная ў парамэтрах канцэптуальнага, "надлітаратурнага" ўвасабленьня аснова-дамінанта празаічнай творчасьці. Ровень абагульненьня ў мастацкай мадэлі быцьця татальны, як мікракосм яна паказвае цэлы космас, а таму, зразумела, у большасьці літаратурных твораў перададзеныя толькі пэўныя элемэнты нацыянальнага быцьця.

***Гістарычная проза*** стала найбольш характэрным і арганічным сродкам мастацкага ўвасабленьня мадэлі нацыянальнага быцьця, пра што сьведчыць багаты вопыт эўрапейскай гістарычнай літаратуры (творы Г.Сянкевіча, А.Ірасэка, А.Шэноа, І.Вазава ды інш.) і – у прыватнасьці – проза беларускага замежжа.

Адраджэнска-нацыянальная праблематыка была вызначальнай у прозе В.Ластоўскага першай паловы 20-х гадоў (аповесьць "Лябірынты", апавяданьні цыклу "Зь мінуўшчыны"). Ідэя Крывіі, распрацаваная пісьменьнікам у эміграцкі пэрыяд, бачыцца канцэптуальна абгрунтаванай трансфармацыяй-выяўленьнем у літаратуры беларускай нацыянальнай ідэі, новым і трывалым падмуркам мадэлі нацыянальнага быцьця (у параўнаньні, да прыкладу, зь "ліцьвінізмам" творцаў XIX стагодзьдзя – філяматаў і філярэтаў, якія патэнтавалі адно своеасаблівую мутацыю старабеларускасьці і нацыянальнай ідэі.

Значным дасягненьнем нацыянальнай гістарычнай прозы бачыцца раман Уладзіміра Случанскага "Драбы", дзе ў гістарычнай пэрспэктыве змадэляваны сымбаль духоўнага і дзяржаўнага быцьця-ўладкаваньня Літвы-Беларусі – у гарманічным суплёце міталягічнага, паганскага і хрысьціянскага лёсапачаткаў. Жывапісны гістарычны калярыт, прыгодніцкая фабула, рамантычныя элементы ў сюжэце і канцэпцыі герояў, камічныя ды іранічныя элементы родняць раман "Драбы" з раманамі вальтэр-скотаўскага тыпу, у паэтыку якіх, аднак, беларускім аўтарам прыўносіцца і натуралістычная эстэтыка, алюзіі з нацыянальнага фальклёру і старабеларускай літаратуры. Сінтэзуючы ў сваім творы набыткі замежнай і айчыннай гістарычнай прозы, У.Случанскі змог, хоць часткай і пункцірна, вымаляваць нацыянальную канцэпцыю беларускай гісторыі.

Паказальны ў названым аспэкце і творчы шлях Юркі Віцьбіча – як пераадоленьне дагматыкі сацрэалізму, "гісторыка-рэвалюцыйнай" прозы пры стварэньні аповесьцяў і нарысаў пра мінулае Бацькаўшчыны (аповесьці "Арцыбіскуп і сьмерд", "Лшоно Габоо Бійрушалайм", паасобныя нарысы-эсэ ("Каб я каршуком радзіўся...", "Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман")).

Найбольш пашыраная ў творчасьці беларускай эміграцыі ***мэмуарна-аўтабіяграфічная*** і блізкая ёй паводле тэматычных і жанравых аспэктаў проза, якая стала і кампэнсацыяй за адсутнасьць – з аб'ектыўных прычын – гістарычнай мастацкай літаратуры, і вынікам экзыстэнцыйна-псыхалягічных пошукаў аўтараў-выгнанцаў. Пашырэньне мэмуарна-аўтабіяграфічнай прозы – як адна з вызна-

чальных асаблівасьцяў разьвіцьця беларускай літаратуры ХХ стагодзьдзя – упершыню выдавочна выявілася ў творчасьці нашай эміграцыі 20-х і канца 40–60-х гадоў. Адметнай бачыцца ў агульнаэўрапейскім кантэксьце "ўспамінная хроніка" Францішка Аляхновіча (у прыватнасьці, аповесьць "У капцюрох ГПУ"), якую ў 30-х гадох пераклалі на шмат якія мовы сьвету і якая ў суседніх зь Беларусьсю краінах мела вялікі розгалас. Архетыповая катэгорыя чалавечага і дзяржаўнага шляху атрымала грунтоўнае філязофскае выяўленьне ў рамане Віктара Вальтара "Роджаныя пад Сатурнам" і раманах Уладзіміра Сядуры "Вялікія дарогі", Кастуся Акулы "Змагарныя дарогі" і Аўгена Калубовіча "На крыжовай дарозе". Філязофскае і біблейскае гучаньне мае асэнсаваньне асабістага лёсу ў раманах Масея Сяднёва "Раман Корзюк" і "І той дзень надыйшоў". Панарамнае выяўленьне нацыянальнага мэнталітэту ў знакавых перыядах беларускай гісторыі вызначальнае для трылёгіі К.Акулы "Гараватка".

Дэталёвымі летапісамі лёсавай трагедыі беларускай моладзі і сялянства ў перыяд бальшавіцка-сталінскага генацыду сталі лепшыя апавяданьні Міколы Цэлеша і Аляксандры Саковіч. Гнеўным абвінавачаньнем таталітарызму прасякнута і аповесьць М.Цэлеша "Загібельскі летапіс".

Прайшоўшы выпрабаваньні на мастацкую і грамадзянскую праўду, мэмуарна-біяграфічная проза беларускай эміграцыі, узбагачаючыся агульначалавечымі філязофскімі праблемамі і біблейска-хрысьціянскімі ідэаламі, схілялася да выразнай лірычнасьці, эсэістычнага і навэлістычнага гучаньня, рабілася значнай і адметнай старонкай нацыянальнай літаратуры.

Канцэпцыя своеасаблівай псэўдамадэлі нацыянальнага быцьця распрацоўвалася ў ***сатырычнай прозе*** беларускай эміграцыі (творы Л.Савёнка-Крывічаніна, Ант.Адамовіча), дзе праз адмаўленьне таталітарнага ладу перадавалася сваё разуменьне ідэалаў духоўнага і сацыяльнага ўладкаваньня. Сатырычная проза эміграцыі, адлюстраваўшы традыцыі "нашаніўскай" прозы, сталася творчым працягам сатырычнай узвышэнскай творчасьці К.Чорнага і, найперш, А.Мрыя, пра што сьведчаць адметнасьці паэтыкі, жанравастылёвыя і ідэйна-мастацкія асаблівасьці аповесьцяў Л.Савёнка-

Крывічаніна “Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава” і Ант.Адамовіча “Трывога”. У названых творах багатая палітра сьмехавых адценьняў, іх сатырычнасьць спалучана з праявамі лірычнасьці і трагічнасьці; яны – выява мастацкага пратэсту супраць вар'яцтва таталітарызму і дзяржаўнай несвабоды. Сродкамі сатыры Л.Савёнак-Крывічанін і Ант.Адамовіч, гратэскна капіюючы рэчаіснасьць, стварылі мадэль грамадзтва дэфармаванага, “перакуленага”.

Проза эміграцыі першай паловы 40-х гадоў (а таксама нешматлікія творы пісьменьнікаў метраполіі), у якіх выяўлялася адмаўленьне ад услаўленьня савецкай палітычнай сыстэмы сталінскага ўзору, у якіх абуджаліся ідэі аб неабходнасьці змаганьня супраць таталітарна-дыктатарскай улады (згаданыя раманы, аповесьці і апавяданьні У.Сядуры, Л.Савёнка-Крывічаніна, Ант.Адамовіча, а таксама блізкія ім малавядомыя раманы Р.Мурашкі “Насуперак лёсу” і “Таварышы”), істотна пашыраюць ранейшыя ўяўленьні пра нашую прозу перыяду Другой сусьветнай вайны, узбагачаюць яе ідэйна-праблемныя і жанрава-стылёвыя абсягі.

Маштабны і аб'ектыўны аналіз прозы беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя дае падставы гаварыць пра яе як пра значную старонку нашага нацыянальнага прыгожага пісьменства – з сваімі адметнымі ідэйна-мастацкімі заканамернасьцямі, праблемна-тэматычнымі і жанрава-стылёвымі напрацоўкамі, якія, аднак, гарманічна кладуцца ў агульны беларускі літаратурны кантэкст.

# ФРАНЦУСКАЯ ШКОЛА БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА

*Віржыні Шыманец*

Думаю, найперш нам трэба акрэсьліць слова “дыяспара”. Дыяспара — грэцкі тэрмін, які гістарычна азначае расьцярушаньне габраяў па сьвеце. Пасьля Другой сусьветнай вайны гэты тэрмін пачаў азначаць расьцярушаньне па сьвеце ўсялякай супольнасьці: “сукупнасьць расьцярушаных супольнікаў”. Паводле гэтага азначэньня можна лічыць, што мой дзед, мая бабуля, мая цётка і мой бацька – частка беларускай дыяспары, бо яны нарадзіліся ў Беларусі, былі “расьцярушаныя” па сьвеце перад тым, як пасяліцца ў Францыі і аб’яднацца зь іншымі беларусамі, якія жылі ў Францыі ды іншых краінах сьвету. Яны бралі ўдзел у жыцьці дыяспары ў тым самым часе, як яе стваралі. Хоць мае дзяды змаглі інтэгравацца і вывучыць чужую мову, гэта не азначае, што яны сталі французамі. Зразумела, што пакаленьне майго дзеда было вельмі палітызаванае. Яно змагалася супроць камунізму і доўга ня траціла надзеі вярнуцца ў Беларусь. Сам факт, што дзяды не маглі вярнуцца, заўсёды быў праблемай. Мая бабуля адчула набліжэньне сьмерці, калі першы раз пачула сваю сястру па тэлефоне. Яна радасна крычала: “Ты жывая!” Калі ж паклала трубку, выглядала вельмі старою і сказала: “Гэта пачатак канца”.

Я нарадзілася ў 1968 годзе каля Парыжа. Я ня бачыла вайны і ня ўдзельнічала ў змаганьні. Мая родная мова – француская. Я хадзіла ў францускую школу і ня мусіла інтэгроўвацца ў тамтэйшае грамадзтва, бо мяне заўсёды прымалі за француджанку. Я не магу сказаць, што я пакінула свой родны край. Я не была часткаю тых людзей, якія расьцярушыліся па сьвеце. Вярнуцца ў Беларусь ці – чакаючы гэтае магчымасьці – захоўваць беларускую культуру, якую я магла б страціць, ніколі не было маёй праблемай і ўжо ня стане, бо, калі я еду ў Беларусь, мой клопат – вярнуцца ў Францыю.

Вяртаньне – гэта ня толькі фізычнае вяртаньне на тэрыторыю краіны, але, як паказала мая бабуля, гэта і вяртаньне ўспамінаў.

Калі я была дзіцём, я не магла сказаць, што прыгадваю Беларусь. Мае "ўспаміны" стварылі мне дзяды і бацька. Мне трэба было прыгадваць усё, што расказвалі дзяды. Аповеды пра вайну слухаць было цяжка, але немагчыма было адмовіцца. Там былі дзьве Беларусі. Адна – у часе вайны, пад бомбамі, у крыві, з тысячамі людзей, якія беглі пад кулямі. Другая – мітычная Беларусь – краіна, дзе беларусаў не было. Там жылі толькі ваўкі, гусі, зубры, качкі й мядзьведзі. У Беларусі майго дзеда жыў таксама гэтак званы Сталін. У маім уяўленьні ён быў вельмі тоўсты адзінокі чалавек, магутны і абавязкова чырвоны, як кожны камуніст. Дзяды размаўлялі па-беларуску, таму натуральна, што мядзьведзі і гусі, ваўкі і зубры таксама размаўлялі па-беларуску. Былі таксама дрэвы, шмат дрэваў і азёраў. Я доўга верыла, што я сапраўды прыгадваю жыцьцё, якога я ніколі не пражыла.

Цяпер вы бачыце, чым я адрозьніваюся ад дыяспары. Безумоўна, я ўнучка і дачка эмігрантаў, француженка зь беларускімі каранямі, прадукт эміграцыі. Маё жыцьцё адбываецца ў кантэксьце гэтага факту. Як прадукт эміграцыі, я не ўспрымаю Беларусь як пункт, адкуль мяне "расьцярушвае" па сьвеце, каб, блукаючы, як ў той псыхалягічнай драме, пераходзіць мяжу і ня ведаць, ані як вярнуцца, ані як спыніцца. Наадварот, Беларусь для мяне – гэта нерухомы пункт, які дазваляе ўмацоўвацца ў Францыі і надае структуру маёй думцы.

Тэатар заўсёды шмат чаму вучыў мяне у гэтым сэнсе. Актору важна мець на ўвазе розьніцу паміж прафэсійным акторам і вар'ятам на сцэне. Каб выйсьці на сцэну і пачаць граць, трэба перайсьці мяжу. Усе прафэсійныя акторы ведаюць, што праблема ня ў тым, як пачаць. Праблема ў тым, што трэба закончыць і вярнуцца, перайсьці мяжу назад. Мы прымаем тэатар толькі таму, што мы ведаем, што п'еса скончыцца. Мы прымаем актора толькі таму, што ведаем, што ён зможа далучыцца да гледачоў. Вар'ят той, хто пяройдзе мяжу і не пасьпее вярнуцца.

Беларусізацыя маёй асобы пачалася вельмі позна, у 1992 годзе. Раней, напрыклад, усе называлі мяне Virginie Symanec. Калі першы раз мяне назвалі Шыманец, я не адрэагавала, бо не зразумела, што гавораць пра мяне. Потым даведалася, што маё прозьвішча скланяецца. Мне было даволі дзіўна чуць усе яго формы: "Шыманца",

"Шыманцы", "Шыманцоў". У 1996 годзе мяне ўпершыню назвалі Віржыня Леанідаўна. Я перажыла шок, нібы трапіўшы на Марс. У Беларусі часта пытаюцца, як мяне трэба зваць: Віржыня, Вырджыня або Вяргіня, і кожны раз я мушу тлумачыць, што я – Virginie, і што мне прыемней, калі мяне ня блытаюць з кветкай. Беларусізацыя маёй асобы стварае пытаньне сэнсу.

У Беларусі відаць адразу, што я чужая. На вуліцы я ўвесь час усьміхаюся, і гэтага ўжо даволі, каб назваць мяне чужой жанчынай зь дзіўным "польскім" акцэнтам. Тыя, хто мяне ведае, кажуць, што я беларуска. У Францыі кажуць, што я француженка. Але я жыву ў крыху парадаксальнай сытуацыі, бо часта адчуваю сябе француженкай у Менску і беларускай у Парыжы. Я доўга думала, што мяжа, якую трэба перайсьці, мае таксама нутраное вымярэньне. У Беларусі я зразумела, што гэтая мяжа – самое стварэньне чалавека.

Аднаго разу я пачула, як нехта казаў, што дзеці дыяспары рэагуюць, як гібрыды, ня ведаючы, у якое крэсла садзіцца. Мушу сказаць, што дзеці эміграцыі часта змагаюцца з тым, што псыхалёгіі вядомае пад назовам double bind: "Я мяркую, што ты гібрыд, але ты мусіш адчуваць сябе беларусам." Або "Я хачу, каб ты захоўваў і бараніў беларускую культуру, але лепш, каб ты маўчаў, чым гаварыць па-беларуску з памылкамі". Трэба разумець, што ў такой сыстэме альтэрнатываў, каб нармальна разьвівацца, выбару проста няма. Або ты пераходзіш мяжу і тады маеш рацыю, што не жадаеш вяртацца ў рэальнасьць, або ты мяркуеш, што магчымасьці развязаць псыхалягічныя праблемы тваіх бацькоў няма, а таму лепш забыцца на ўласныя праблемныя карані.

Дзякуючы таму, што Савецкі Саюз разваліўся, я мела шанец знайсьці іншую альтэрнатыву. У Беларусі я зразумела, што пытаньне ідэнтычнасьці заўсёды сытуацыйнае, і што рэдка бывае, каб іншыя давалі магчымасьць акрэсьліцца самастойна. Вас будуць называць беларускай, француженкай або гібрыдам. Я мела час паглядзецца ў люстэрка і праверыць, што маю толькі адну галаву. Я ўсьвядоміла, што мне прыемней, калі мяне перадусім успрымаюць чалавекам, а толькі потым адзначаюць нацыянальнасьць.

Сказаць, што я беларуска, француженка, ці які гібрыд дзьвюх нацыянальнасьцяў – значыць абмежаваць маю ідэнтычнасьць. Я таксама акторка, рэжысэр, драматург, доктар навук, выкладаю

гісторыю тэатру ва ўнівэрсытэце, працягваю свае дасьледваньні ў галіне беларускага тэатру, удзельнічала ў стварэньні асацыяцыі “Беларускія пэрспэктывы” і кірую Беларускай калекцыяй у выдавецтве *L'Harmattan*. Калі мая ідэнтычнасьць складаная, гэта не азначае, што яна паталягічна можа быць падзеленая на мноства кавалачкаў, што яна можа быць “расьцярушаная”. Зразумела, я не стаю, як кажуць, паміж дзьвюма культурамі, нібы ў “мёртвай зоне”. Я – прадукт дзьвюх культураў і дзьвюх палітычных сыстэмаў. Гэта ні добра і ні блага, гэта факт. Часам прыняць некалькі элемэнтарных фактаў – вельмі доўгі шлях з шматлікімі перашкодамі.

Я казала, што ў часы майго дзеда існавала мітычная Беларусь. Вы можаце ўявіць мае ўражаньні ад першага прыезду ў Беларусь у 1992 годзе. Раней нават думаць пра тое было нельга. Мітычны край згінаўся перад рэальнасьцю. Я не была падрыхтаваная бачыць боль і беднасьць. Тады, у 1992 годзе, у маім жыцьці адбыўся пералом. Я ачуняла і доўга думала: яны [мае дзяды, – *заўв. рэд.*] манілі мне. Таму вельмі прашу прабачыць, што сёньня мяне цікавіць толькі рэальная Беларусь.

Мне было 27 гадоў, калі я мела магчымасьць паехаць у Беларусь з маім тэатрам. Тады я яшчэ не гаварыла як мае быць па-беларуску. Я знайшла настаўніцу, якая ня ведала францускай. Штодня яна чакала мяне на лаўцы ў парку, каб папраўляць памылкі ў маёй мове. Так мы сустракаліся больш за шэсьць месяцаў. Зразумела, гэтага мала, каб авалодаць мовай, але бяз Вольгі Аляксандраўны я не магла б нават спрабаваць гаварыць. Таму нельга сказаць, што я “ад прыроды” размаўляю па-беларуску. Я плаціла грошы, каб вучыцца і вельмі мала хто памог мне ў маіх высілках. Гэта таксама тое, што я называю “рэальнай Беларусяй”.

Давялося мне пабыць і ў Баранавічах. Там яшчэ стаіць старая станцыя, адкуль мае дзяды выяжджалі зь Беларусі. Сымбалічна, бо там пачынаецца гісторыя Шыманцоў у эміграцыі, як дзядуля мне яе расказваў, і мне трэба было яе памятаць. Я ўскараскалася на мост па-над чыгункай. Калі я ўсьвядоміла, што на самой справе нічога ня памятаю, калі зразумела, што не магу ідэнтыфікавацца з гэтай гісторыяй, дык падумала: я лёгка магу скочыць. Тады кола

гісторыі хутка замкнецца. На гэтым мосьце я змагалася сама з сабою вельмі доўга. Калі я ня скочу, мне трэба будзе пабудаваць сваю ўласную гісторыю зь беларусамі. Пасьля таго, як я вярнулася ў Менск, я спала шаснаццаць гадзін.

Тэатар дапамог мне знайсьці прычыну заставацца далей у Беларусі – я рыхтавала доктарскую дысэртацыю. Кожны вечар хадзіла ў тэатар і так магла напаўняць свой актыўны слоўнік. Кожны дзень чытала ў архівах, адкрывала для сябе новыя п'есы. Патроху пачала лепей чытаць і разумець. За шэсьць месяцаў я не прапусьціла ніводнай пастаноўкі Пінігіна, сустракалася з Васілём Быкавым, упершыню пачула пра Сьвятлану Алексіевіч і чытала вершы Алеся Разанава. Я чытаю свае запісы і думаю: з кім цяпер можна сустрэцца ў Беларусі? Кажуць, што існуе новая дыяспара. Важна, каб гэта ня было новае беларускае гета, дзе выгодна і проста замкнуцца.

Калі мы з Аляксандрай Гужон стварылі часопіс "Беларускія пэрспэктывы", нам было зразумела, што нельга асуджаць французаў, што яны нічога ня ведаюць пра Беларусь. Калі хочаш, каб французы нешта зразумелі, трэба растлумачыць свой пункт гледжаньня і зрабіць гэта па-французску. Гэта відавочна. Нам было зразумела таксама, што тыя, хто піша па-французску цяпер, распаўсюджваюць толькі зручныя стэрэатыпы. Францускі дасьледнік Ралян Барт сказаў, што ён пазнае стэрэатып, калі, чытаючы, засынае. Стэрэатып ужываецца, каб чытач перастаў думаць і пачаў спаць. А калі ты сьпіш, ты не змагаешся. Стэрэатып не прымае дэмакратычнай палітызацыі сюжэту, які ты дасьледуеш. Напрыклад, калі ты сказаў, што беларус талерантны і адвечна пакорлівы чалавек, то ніякай праўды не патлумачыў. Ты можаш спакойна ісьці спаць, так нічога й не зрабіўшы, каб зразумець, чаму беларусы канечне мусяць лічыцца талерантнымі і пакорлівымі. Каму гэта выгадна? Прастора дыскусіі замкнёная, бо ўсе павінны згаджацца з стэрэатыпамі, а калі так, то дэмакратычае дыскусіі няма.

Мы з Аляксандрай хацелі зрабіць інакш: пачаць думаць пра Беларусь і паказаць, што можна пакінуць стэрэатыпы на карысьць аналізу. Мы маглі б паўтараць вывучаныя лекцыі, але абралі іншы шлях: ехаць у Беларусь, слухаць розных людзей, якія маюць нешта сказаць, публікаваць агляды й інтэрвію, даваць нашыя старонкі

тым французам, што таксама едуць у Беларусь і хочуць падзяліцца сваім досьведам, – каб прапанаваць чытачом рознабаковую інфармацыю пра гэты край і каб распаўсюджваць дух дыскусіі і дасьледваньня. Але найперш мы самы мусім зразумець і дасьледваць прадмет нашага дыскурсу.

Мы пасьпелі стварыць маленькі ўнікальны рух, які разьвіваецца. Беларуская калекцыя выдавецтва *L'Harmattan* таксама дапамагае гэтаму руху пашырацца. Нядаўна "Наша Ніва" напісала, што "сапраўдны прарыў у французскім беларусазнаўстве адбыўся з пачаткам выданьня сэрыі кніг Беларускай калекцыі ў парыскім выдавецтве *L'Harmattan*". Гэтая сэрыя працягвае дух асацыяцыі "Беларускія пэрспэктывы", якая выдала пяць нечаканых кніг. Нечаканых, бо іх аўтары – маладыя і невядомыя. Ігар Лялькоў – беларускі архівіст, які прыехаў ў Францыю вучыцца. Ён напісаў "Агляд палітычнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага". Алена Лапатнёва піша цяпер доктарскую дысэртацыю ў Францыі ў галіне палітычнай антрапалёгіі. Яна апублікавала "Беларусь: мізансцэны ўлады". З Аляксандрай Гужон і Жан-Шарлем Ляльманам мы рэдагавалі "Хронікі пра сучасную Беларусь", дзе сямнаццаць дасьледнікаў, што працуюць у розных галінах навукі, прапануюць розныя артыкулы з сваіх сфэраў веданьня: гісторыі, палітыкі, эканомікі, міжнародных дачыненьняў, культуры, экалёгіі. Ані Жоліф, жонка першага французскага амбасадара ў Беларусі, напісала эсэ "Беларуская прыгода", дзе апісала стварэньне амбасады ў Менску "на голым месцы".

Што плянуецца сёлета? Наш знакаміты Бруно Дрвэскі гатовы апублікаваць цяпер "Маленькі беларускі парлямэнт: Беларускія дэпутаты ў польскім сойме ў 20-х і 30-х гадох". Падрыхтаваная таксама "Мастацкая школа ў Віцебску" Клеры Лефоль. Клер – француженка, якая цяпер рыхтуе доктарскую дысэртацыю з гісторыі габраяў у Беларусі пры канцы XIX стагодзьдзя. Рыхтуюцца "Польска-беларускія сувязі: сучасны і гістарычны агляд" Аляксандра Лагвінца, "Спэцыфіка сучаснага беларускага праекту. Праблема стратэгічнага выбару: ані ўсход, ані захад" Юр'я Ліхтаровіча і "Беларускія жанчыны і нацыянальная ідэя" Уладзіка Іванова. Аляксандар, Юрай і Ўладзік вывучалі паліталёгію у французска-

беларускім унівэрсытэце [маецца на ўвазе французска-беларускі факультэт паліталёгіі Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту – *заўв. рэд.*] у Менску. Юля Шуканай прапанавала мне кнігу “Беларуская апазыцыя на дэманстрацыі”. Француженка Анабэл Акры пачынае доктарскую дысэртацыю “Дамова аб інтэграцыі за Лукашэнкам” у парыскім Палітычным інстытуце і таксама прапанавала нам свой праект. Вольга Белава (яна спэцыялізуецца ў міжнародных дачыненьнях) і Аляксандра Гужон павінны закончыць свае доктарскія дысэртацыі сёлета.

Я са зьдзіўленьнем бачу цяпер, што ўжо ёсьць пакаленьне, якое гаворыць па-француску і якое шукае, дасьледуе, аналізуе, рызыкуе ехаць у Беларусь, каб вучыць мову, каб сустракацца зь людзьмі, сядзець ў бібліятэках і корпацца ў матэрыялах. Дзесяць гадоў таму я была ўпэўненая, што я адзіная з падобным зацікаўленьнем. Калі мы з Аляксандрай Гужон сустрэліся ў 1994 годзе, то думалі, што нас толькі дзьвёх. Жан-Шарль пачаў пісаць на нашых старонкаў пазьней, але ён умацаваў нашую палемічную і аналітычную пазыцыю. Цяпер амаль звычайным стала сустракаць людзей нашага пакаленьня, хто дасьледуе беларускія пытаньні. Французы, якія едуць у Беларусь рабіць свае досьледы, не абавязкова з паходжаньня беларусы. І беларусы, якія прыязджаюць у Францыю рабіць свае досьледы, – не канечне французскага паходжаньня. Гэта значыць, што нешта вельмі важнае мяняецца. Гэтае пакаленьне разьвязвае праблему межаў па-свойму. Яно бачыць пазытыўную ролю ў адлегласьці й набліжэньні ў аналітычным працэсе. Яно адмаўляецца замкнуць беларускую тэматыку ў самую сабе, паказваючы гэтым таксама, у чым беларуская сытуацыя не зьяўляецца ўнікальнай.

Гэта яшчэ не “прарыў у французскім беларусазнаўстве”, а толькі пачатак французскай школы беларусазнаўства, якая ўсьведамляе складанасьць беларускай тэматыкі. Яна фактычна не разьвівае беларускай думкі, хутчэй – стварае розныя спосабы думаць пра Беларусь. Мы павінны вывучыць і зразумець ідэалягічную прастору, якая яшчэ рэдка згаджаецца на крытычны дух і свабоду дасьледваньня. Мне здаецца, што “Беларускія пэрспэктывы” і Беларуская калекцыя ў выдавецтве *L'Harmattan* адыгрываюць у Францыі ролю баромэтра гэтае новай рэальнасьці.

# DILEMMAS AT THE CUTTING EDGE: THE PLACE OF IDENTITY IN BELARUSIAN STUDIES

*Maria Paula Survilla*

*Марыя Паўла Сурвіла акрэсьлівае сябе як "беларуская канадыйка, якая жыве ў ЗША" і "беларуская дасьледніца беларускае культуры". У гэтым артыкуле яна аналізуе дынаміку самаідэнтыфікацыі беларусаў на чужыне і культурна-псыхалягічны канфлікт, які нараджаецца ў выніку сустрэчы беларускага эмігранта з рэчаіснасьцю сучаснае Беларусі. Паводле аўтаркі, ідэнтычнасьць беларуса на чужыне была сфармаваная перадусім пачуцьцём страты Бацькаўшчыны. Гэтае пачуцьцё матывавала беларускіх эмігрантаў да стараннага захаваньня памяці пра сябе як беларусаў, актыўнага ўжываньня роднае мовы, вызнаньня за культурны канон толькі таго, што на іх погляд было традыцыйным і аўтэнтычным. У выніку эміграцыя сфармавала адметную, выразна акрэсьленую ідэю беларускасьці, якая, аднак, далёка не заўсёды знаходзіць водгук у незалежнай Беларусі. М.Сурвіла аналізуе гэтую адлегласьць паміж беларускасьцю дыяспары і ідэнтычнасьцю беларусаў у Беларусі з гледзішча – з аднаго боку – дасьледніка, які мусіць захаваць аб'ектыўнасьць ацэнак, а з другога боку – таго, хто нарадзіўся і вырас на эміграцыі.*

Formulating ideas about culture is in every way about recognizing, explaining, and celebrating the dilemmas of representation. We negotiate cultural ideas in every aspect of our daily lives whether we are engaged in prosaic or intentionally intellectual activities. Within the realm of cultural studies, writing about culture requires that researchers recognize the subjectivity of human expression (whether artistic or academic) and consider how that subjectivity can shape our abilities as observers and as interpreters. In current cultural theory, we are asked to identify how personal experience can determine our views, establish the depth of our observations, and define the ways in which we consider what anthropologist Clifford Geertz has called a *culture system.*[1]

[1] Geertz, Clifford. *Local Knowledge.* New York: Basic Books, 1983.

Culture is in itself a problematic term. It is an abstract concept that implies definitive boundaries: geographic, linguistic, behavioural, and in some usage national domains. These categories can qualify a community and make it recognizable from another. However, while the term culture is loaded with suppositions about boundaries, scholarship about culture struggles to gain comfort with the idea that change, negotiation, and the constant mediation of identity are the norms not the exceptions in cultural processes. Therefore writing about culture is itself fraught with dilemmas. It requires the constant analysis of the role of identity not just as an aspect of a subject culture but on the part of the researcher as well.[2]

When I first began my studies in ethnomusicology, disciplines that were engaged in cultural interpretation were deeply concerned with the representation of the *other*. The discourse about cultural scholarship ranged from the theoretical to the ethical. The post-colonialist critiques that began defining the scholarship of the late twentieth century encouraged a new sensitivity to the tone of scholarly authority and to the notion that, as researchers, we understand other cultures from the outside. As we struggle to experience, theorize, and communicate about culture from the borders, contemporary ethnography demands that we also consider the scholar and clarify the nature of his or her "voice". As a researcher that felt comfortable with what Belarus meant for Diaspora communities, I came to understand the presence of subtle shadings and of obvious contrasts between my understanding of Belarusian identity and those of Belarusians in homeland communities. Eventually my own identity was shaped by my fieldwork as I was faced with evaluating the lack of consistency between my cultural identity and the many attitudes and opinions I encountered in Belarus.

The supposition that I was a cultural insider *was* the basis of a primary dilemma in my work. I was a member of a Belarusian community that articulated Belarusian culture and that was activated to action as a result of that culture. I was therefore uniquely equipped and thought that I could avoid the cultural discomfort felt by researchers investigating in an *other* cultural space. For someone engaged in cultural research this

[2] Clifford, James. *The Predicament of Culture: Twentieth Century Ethnography, Literature and Art*. Cambridge: Harvard University Press, 1988.

was a nad've supposition. Once in Belarus, I was uncomfortably aware that my notion of *Belarusian* was being challenged, but that I had to find the emotional and intellectual space to explain and accept the co-existence of divergent attitudes.

Since this conference is about considering the contributions of the Diaspora to Belarusian culture it is important to consider the experiences that shaped perceptions of culture and belonging for those emerging from North American Diaspora communities. One way of considering the role of the Belarusian Diaspora is to consider the social, historical, and psychological bases for the construction and maintenance of a very specific Belarusian identity, or *Belarusianess.*

In the Diaspora communities of my childhood (Ottawa, Toronto, Montreal, and New York), *Belarusianess* referred to an awareness of being Belarusian that was supported by action. In the immigrant environment, this awareness was a necessary criterion of cultural identity that had emerged from shared cultural experience. This identity had developed through a conscious process that stressed public and private exploration of culture, ritual practices, and displays of language, history, music, religion and politics. These elements were as much a part of living culture as they were a response to the conditions that influenced migration.

The importance of an organized articulated strategy for cultural belonging is the result of cultural experience.[3] Identity studies have recognized the formative impact of conflict on the construction and maintenance of such strategies. This is clearly evident where identity has been targeted by political and cultural colonization. For Belarusians who left their homeland as a result of political and cultural stresses, pre-sovereignty (1991) Diaspora culture reflected the expression of longing for something left behind. The sense of loss emphasized the separation from a physical connection with homeland, from a broader identifiable community, as well as the silencing of a very specific collection of voices that had recognized their role in the maintenance and evolution of cultural processes. Such loss was compounded by the social and

[3] Royce-Peterson, Anya. *Ethnic Identity: Strategies of Diversity.* Bloomington: Indiana University Press, 1989.

political context of migration. For many this context had included cultural persecution and linguistic subjugation in the homeland.

These experiences determined a cultural position that included a sense of responsibility for cultural (Belarusian) representation targeted towards the public at large. The community saw itself charged with maintaining cultural continuity through the preservation of the Belarusian language and of cultural practices, upholding the position of an exiled government (Rada), and asserting a cultural distinctiveness as a response to Western attitudes about non-Russian eastern European cultures. Although the makeup of the immigrant community varied, members shared rather specific goals that came to define local and "national" community gatherings, whether the intent was socio-ritual or overtly political:

• the consistent performance of cultural memory that acknowledged shared historical conflict as part of community gatherings;

• the assertion of cultural differentiation through public events as well as through lobbying efforts meant to educate those outside the community.[4]

The manifestation of *Belarusianess*, including insider and outside strategies of representation, were also fuelled by a well-organized and active contingent of intellectuals who generated research, participated in and hosted academic events, and lent a voice of scholarship that underlined the cultural legitimacy of the community. Community memory was embodied in organized performance groups who sang choral arrangements of Belarusian folk and art songs and others who danced Belarusian dances. The community also boasted painters and literary figures. The cultural products of the immigrant community became the means of celebrating culture and were important vehicles of preservation. In many ways these products represented an active rather than a passive approach to such preservation offering new examples of material culture and highlighting younger generations of performers.

At the same time, the source pool for *Belarusianess* was highly defined. As a youngster, my notion of Belarusian folk music was linked to a very specific canon because it was based on the specific cultural reper-

[4] Survilla, Maria Paula. *Of Mermaids and Rock Singers*. New York: Routledge, 2002.

toire of the community members that had emigrated. The canon included the usual selections of nation-specific songs, *Pahonia*, for example, and songs, dances, literature, and representative images that had gained iconic significance. When we danced, we always danced *Lavonicha* and when we sang, we always sang "Lublu naš kraj" (I love my country). These examples are also useful because they emphasize that the sources for a cultural canon included traditional (folk) resources as well as examples from a literary canon.

Those annual events that were specific political markers for the community automatically linked musical selections to a political identity. While it is easily argued that every cultural act is a political one, these celebrations, especially Belarusian Independence (March 25th), served as reminders that political freedom was a necessary component of cultural freedom. As a child I understood that being Belarusian demanded a dynamic approach to identity. It meant being aware of community memory, of political aspirations, of the notion of a cultural repository, and most powerfully, of the potential for emotional transcendence – the response that results from feeling a cultural connection and from recognizing the breadth of meaning embodied in cultural expression.

As an audience member and as a performer I quickly understood the songs and dances performed at community gatherings had mystical power. My sister and I would often sing duets or dance with other members of the Belarusian youth and, although the quality of our performances could vary, our audiences responded with that depth of emotion that comes from recognition, from familiarity, and from the powerful physiological triggers that memory can induce. As a result, such performances were charged with expectation. This meant that the "interpretation" of Belarusian music, dance, traditional costuming were bound by certain conventions that were powerfully linked to authenticity. The latter was especially important since the immigration also saw themselves as the keepers of Belarusian culture.

In addition to the focus on traditional and literary sources as a basis for a cultural canon, authenticity also demanded the presence of the Belarusian language. In Belarus, attitudes towards linguistic freedoms had varied somewhat in the late nineteenth and early twentieth centuries. When the political environment was eased, Belarusians produced

remarkable examples of Romantic literature and poetry that reflected affection for Belarusian life and voiced social criticism for cultural conditions. For the Diaspora, the Belarusian language was a vehicle for expression but was also considered to be a powerful component in Belarusian cultural and national identity both within and outside the homeland.

The tenuous position of the language vis-a-vis changing strategies of colonization and the consistent, if not always prolonged, movements asserting Belarusian expression highlighted the Belarusian language as a tangible marker of differentiation and of identity. The emigration embraced pre-Stalin Belarusian and ignored his brand of *official nationalism* that had forced legislated changes in the sound of Belarusian by eliminating those elements that differentiated Belarusian from Russian. As the most consistent marker of authenticity, language was evaluated not only according to its use but to its quality.

Community life offered a very well defined and celebrated idea of what Belarusian identity was. Family life could also offer a support for this identity. My parents spoke Belarusian, they were passionate about Belarusian books, art, and music. They celebrated Christmas and Easter according to Belarusian traditions, they served Belarusian foods, they sang Belarusian lullabies that I now sing to my own children. It was however their passion for all these things, their desire to share these experiences with both Belarusian and other Canadian friends that profoundly defined my Belarusian identity. To be Belarusian was legitimate, it was enriching and it was bound to cultural confidence that emerged partly from the continuous need to explain Belarusian culture as distinct.

My early placement of this identity was challenged when I began to pursue cultural studies in graduate school. I was deeply assertive about Belarusianess especially since no one in my chosen field, ethnomusicology, was doing research in this area, let alone were aware of the multitude of cultures in the then Soviet Union. My training made me sensitive to the dilemmas of cultural representation and to the struggle to articulate theories about culture. However, it was not until I spent a year between Bielastoииуna and Miensk that I realized that my own "culture" embodied such dynamic differences of identity that I would face a crisis about how to place my own.

The overall cultural climate in the Belarus that I experienced in 1993 resonated with the exploration of the state of Belarusian identity in a post-Soviet society. This *adradžeńnie* was evident in the public media, in planned education reforms, in the recognition of Belarusian as the national language, and in the conscious appropriation of cultural styles and repertoire as a means to produce a Belarusian-specific brand of contemporary expression, including rock. These explorations provided a fascinating look at a culture in a time of transition and at the cultural players who were positioning themselves in the construction of a contemporary Belarus.

However, the expectation that political freedom would have automatically generated a widespread "return" to a Diaspora-brand of Belarusian identity quickly collapsed. One key factor in the response to a contemporary Belarusian identity reveals the absence of a cultural confidence. The degree of cultural confidence marks a significant difference between Belarusian communities in the homeland and in immigrant contexts. In the Diaspora, the private and the public presence of a Belarusian identity had become a "natural" behaviour for members of these communities. When the fall of the Soviet Union provided the opportunity for political self-determination, the Diaspora community was jubilant. They expected that the *new* Belarus would naturally embrace the tenets of the identity they had carefully protected since migration. The caution and, for some, the indifference towards Belarusian language and cultural assertion amongst Belarusians in the homeland were in direct contrast with the identity of the Diaspora.

It is difficult to describe the emotional fallout of the cultural gap that separated Belarusians within and outside the homeland. After years of lobbying efforts, financial contributions, and intellectual devotion, the ňmigrň community considered attitudes in the homeland disappointing and dismissive. Although some organized groups were actively contributing to rebuilding a nation, this rebuilding did not always boast a unified and populated movement, nor was it based on language, cultural history, and on differentiation. As a result, Diaspora populations viewed their counterparts as passive. Those who visited after a long absence experienced an ironic version of culture shock and did not find the Belarus that had inspired their sense of identity. As Salman Rushdie has written:

> ...exiles, or emigrants, or expatriates, are haunted by some sense of loss, some urge to reclaim, to look back even at the risk of being mutated into pillars of salt. But if we do look back, we must also do so in the knowledge—which gives rise to profound uncertainties—that our physical alienation [...] almost inevitably means that we will not be capable of reclaiming precisely the thing that was lost; that we will in short create [...] imaginary homelands (1992: 10).[5]

I had felt a sense of displacement when I first began my field work and I struggled to reconcile my sense of Belarusianess in the midst of an unexpected homeland. I came to understand how cultural experience had been consequential in constructing diverse Belarusian identities. How could Belarusians in the homeland spontaneously value a cultural legacy that had been subjugated for most of the twentieth century? As it was, Belarusians in Belarus were facing accelerated rates of economic, social, and political change. While some saw language reform as necessary and timely, those who had lost a connection to the Belarusian language resented the implementation of Belarusian in public, political, and professional spheres. In addition, the confidence that characterized Diaspora identity could not be part of an environment that had stressed homogeneity, not diversity, as a Soviet version of official nationalism.

The very different notions of Belarusian identity framed the primary dilemmas of my field work. My own cultural curriculum had been clearly defined in my experiences amongst emigrй communities. I was intellectually committed to that culture as well as emotionally connected to that identity. Once in Belarus I was forced to stand back from that identity and to eventually reconcile the discrepancies that I had seen devastating the older members of my community. My own sense of identity had not really changed. I still believed that language and cultural awareness were fundamental to my sense of being Belarusian. However, I was also aware that I could not comfortably place myself in one definitive position about cultural politics and identity. I was not a comfortable insider in the emigrant community because my enthusiasm

[5] Rushdie, Salman. *Imaginary Homelands: Essays and Criticism 1981–1991*. Granta: Viking–Penguin, 1997.

for Belarus contrasted with the cultural critiques of the emigrant community. In Belarus I would never truly belong even though new friends and colleagues accepted me as a partial insider. I understood that I had lost the consolation of assuming that my sense of culture was stable. I had landed in a realm somewhere between my cultural education and my intellectual experience where the cultural discomfort of the outsider becomes a constant presence. I had become, as Minh-ha describes, "both a deceptive insider and a deceptive outsider" (1991; 1995: 218).[6]

The place of Belarusian identity is only one aspect of the challenge of placing the self within a community, a culture, and a profession (in my case). An equally interesting dilemma exists in the negotiation of identities in an adopted homeland. In the case of Canada or the United States, where diversity is the accepted and celebrated nature of these national constructs, there is seldom a question of practical or intellectual loyalty between a hereditary and a contextual identity. All can be proud to be members of a Canadian or an American society while articulating their pride in their other identities. I am a Belarusian Canadian who lives in the United States and I am used to the negotiation of all of these selves knowing that pride in one does not negate pride in any other.

In a professional context, the politics of the academy can have an impact on the evaluation of culture and can underline the value of a research domain. For example, Belarusian studies are often quite low on the totem pole of Slavic studies. In the professional and academic arena then, the convictions of Diaspora scholars and active community members has served to encourage the acknowledgement of Belarus as not only a viable but as a cutting edge subject area. It is presently the exotic destination in Slavic studies and, while acknowledged, other scholars of Slavic studies seem to have difficulty admitting Belarus into the powerhouse club with Ukrainian and Russian studies. As a contemporary scholar I face the irony of witnessing the transposition of cultural experience in Belarus to the politics played out in the academy. This situation places all of my Diaspora-based training into action. It requires that I:

---

[6] First published in *When the Moon Waxes Red: Representation, Gender and Cultural Politics* New York; London: Routledge, 1991.

• successfully articulate the position of those I study,

• convincingly articulate my own,

• anticipate the types of questions that Belarusian perspectives might generate,

and that I

• balance my voice as an author so as to express my conviction for my topic while clearly remaining open to further exploration.

All of these requirements generate dilemmas with identity. Yet my enculturation and my cultural training within family, community, in research, in adopted nation(s), and within my profession set the stage for my position as a Belarusian researcher of Belarusian culture(s) who acknowledges the dynamic energies embodied in identity construction.

The contributions of the Diaspora to the perpetuation of Belarusian identity are profound. I have inherited an understanding of how deeply those engaged in Belarusian affairs live their identities and I am grateful for that knowledge. Without it I might not be as aware of the dynamics of Belarusian identity and of how that identity generates action at so many private and public levels. While this knowledge does not simplify my contribution to the discourse on Belarus, it renders clear the scope of the contribution the Diaspora has made to the Belarusian culture system and demands that we acknowledge how the location of self shapes what we experience, feel, and say about our subject.

# ПЕРАКЛАДЫ ЭМІГРАЦЫІ: ІДЭАЛЁГІЯ КУЛЬТУРЫ

*Лявон Юрэвіч*

Пераклад як літаратурны жанр вылучае сярод іншых пэўная безабароннасьць, асабліва ва ўмовах таталітарнай дзяржавы. Бо забараніць грамадзянам думаць і пісаць у роднай мове сваё, патаемнае, вольнае, як мы пераканаліся на лёсе беларускае літаратуры, немагчыма. Зусім іншае – адлучыць ад сусьветнай культуры праз не-навучаньне замежным мовам, праз старанны адбор дазволенага да перакладу дазволенымі перакладнікамі. Дзяржава магла кантраляваць гэты працэс, увёўшы ў бібліятэках прапускную сыстэму для аддзелаў іншамоўнай літаратуры (чым прыраўноўвала яе да антысавецкай, эміграцыйнай літаратуры, у аддзелы захоўваньня якой, каб патрапіць, таксама патрэбны быў адмысловы дазвол). І тут цяжка не пагадзіцца з Андрэем Дынько, рэдактарам «Нашай Нівы» і дырэктарам «ARCHE»: «Савецкі рэжым у Беларусі ставіў задачу поўнага сьціраньня ранейшае культурнае традыцыі з усімі яе формамі і зьместамі і татальнай падмены яе культурай новага, «сацыялістычнага» зьместу. Ад гэтай культуры новага тыпу патрабавалася быць пасьлядоўна прапагандысцкаю, каб гарантаваць непахіснасьць усталяванага ладу. Ад яе патрабавалася таксама быць абапертаю на рэфэрэнцыйную культуру, каб прывязаць нацыянальную ўскраіну да мэтраполіі. [...] На нацыянальнай мове дазвалялася весьці гуманітарныя навуковыя дасьледваньні, але ўсе тэхнічныя, дакладныя й прыродазнаўчыя навукі мусілі быць расейскамоўнымі. Існавала таксама негалоснае вэта на пераклады з сусьветных моваў на беларускую. Кантакт беларускай думкі з сусьветам мусіў адбывацца праз расейскае пасрэдніцтва»[1].

Што гэта насамрэч так, што фактычна дзяржава перашкаджала разьвіццю перакладніцкай дзейнасьці, знаёмству праз перакла-

[1] Дынько Андрэй. Resistant Culture // ARCHE. 2001. № 1. С.73.

ды з сусьветнаю культураю, добра бачна па падзеях новага часу, падзеях 90-х гадоў, калі прыйшлі ў літаратуру маладыя людзі, якія атрымалі магчымасьць вывучэньня замежных моваў (Андрэй Хадановіч, Валерка Булгакаў ды іншыя) або людзі старэйшага веку, як Васіль Сёмуха, што змог нарэшце перакладаць жаданае (творы Томаса Манна, Ніцшэ, Гэссэ).

Эміграцыя атрымала такую магчымасьць нашмат раней. Ролю й значэньне перакладніцкай дзейнасьці нашае эміграцыі адзначыў, ва ўласьцівай яму манэры, Сакрат Яновіч, беларус на заходнеўсходнім памежжы, што зьяўляецца ня гэтулькі геаграфічнаю прывязкаю да пэўнага месца, колькі вытлумачэньнем комплексаў пісьменьніка, у прыватным лісьце да сп.Часлава Найдзюка за 11 сакавіка 1983 году: «Выданьне па-ангельску твораў Купалы ці Коласа беспараўнальна болей значыць для справы нашага народу і яго культуры, чымсьці розныя "прошчы" і "маніфэстацыі" – гаворачы нейкім вобразным прыкладам, каб быць правідлова зразуметым у галоўным. Чаму ідуць дзясяткі тысячаў даляраў у тую яму херні, а няма грошай, каб заплаціць перакладніку Купалавага й выдаўцу Купалавага?! Ёсьць на Флярыдзе Пятроўскі, які сам абеларушчыў і выдаў Плятона, Аўрэлюса. Каб Вы тое бачылі, як ён гэтым падняў нас тут на духу: жартанькі – Плятона можна ўжо чытаць па-беларуску! І Аўрэлюса! Яго гэтыя кніжкі афіцыйна даходзяць да нас тут, за імі ганяецца проста нашая інтэлігэнцыя, як за кніжкай прафэсара МакМільліна з Англіі аб беларускай літаратуры, ці бо анталёгіі Веры Рыч «Як агонь, як вада» (выбар беларускага верша на ангельскай мове, якую ў нас ведае сёньня амаль што другі малады інтэлігэнт). Мы прагнем далучыцца да сусьветнае культуры й чакаем помачы ў гэтым так-жа ад эміграцыі, зразуменьня ёю, што праз гэткае далучэньне зробімся бесьсьмяротнымі, вечнымі, здольнымі жыць далей, а не гібець у нікому не цікавых сьлёзах-крыўдзе (каму мілы жабрак-неўдалота?). Амэрыканцы любяць і ўмеюць паказацца з добрага, самага моцнага ім боку. І нам трэба таго, і маем чым. Ня ведаю, ці акурат не памыляюся, але менавіта гэтак я разумею айца Надсана, і лічу яго адным зь нямногалікіх, якія ўмеюць думаць цьвяроза, без шалёных фантасмагорый ды дзіцячасьці ў палітыцы. Скарынаўская бібліятэка выклікае ў нас самыя добрыя спа-

дзяваньні, ганарымся ёю ды ўсяляк успамагаем яе. Беларускае вакно на Захад! Але аднаго вакна ў хаце мала, трэба больш!»[2].

Пры неадназначнасьці й пэўнай палемічнасьці ацэнак сп. Яновіча нельга не пагадзіцца з адным: пераклады, зробленыя эмігрантамі, сапраўды былі вакном на Захад – для беларусаў. Разам з тым, калі разьвіваць гэтую мэтафару далей, пераклады сталіся вакном і на Ўсход, вакном у Беларусь для зацікаўленых на Захадзе, той ці не выключнай праўдзівай інфармацыяй, якую несьлі ім беларускія творы, мастацкія й навукова-папулярныя, перакладзеныя ў замежныя мовы.

Пераклады зь беларускай мовы і ў беларускую, скіраванасьць на Захад і Ўсход – вось два кірункі перакладніцкай дзейнасьці нашае эміграцыі, два ейныя вэктары, што й складаюць зьмест майго дакладу.

Умоўна кажучы, эміграцыяй перакладаліся рэчы чатырох катэгорый. Першая – палітычныя. Пераважна гэта былі адозвы, дэклярацыі (у тым ліку й знакамітая Ўнівэрсальная Дэклярацыя правоў чалавека), адным словам, дакумэнты, што перакладаліся й пашыраліся ў справе змаганьня за вызваленьне Беларусі, як намаганьне растлумачыць таму, амаль мітычнаму, *Захаду* сваю праўду.

Другая катэгорыя – тэксты Сьвятога пісаньня, Стары й Новы Запаветы, малітвы, Службы. Гэтая дзялянка ня проста была занядбаная на Бацькаўшчыне; яна сьвядома й неаднаразова праполвалася службоўцамі з розных інстанцый – да поўнага вынішчэньня. Фактычна, з рэдкім выняткам (а гэта пераклады айца Чарняўскага, Анатоля Клышкі, Васіля Сёмухі), усё, што сёньня мае беларус у гэтай галіне, ён мае дзякуючы створанаму на эміграцыі, не ў апошнюю чаргу – створанаму ў гэтых сьценах, сьценах Скарынаўкі. Але гэта настолькі вялікая й значная тэма, што патрабуе асобнай, самастойнай гаворкі. Да таго ж я не пачуваюся спэцыялістам, каб закранаць спэцыфіку перакладаў сьвятых твораў.

Трэцяя – пераклады, якія сёньня ўяўляюць больш гістарычную цікавасьць, чым практычную, але адыгралі немалую ролю ў лягерох ДП. Маю на ўвазе тыя падручнікі для кіроўцаў або «Асновы

[2] Ліст захоўваецца ў архіве Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

скаўцкай мэтоды» – кніжачкі, што дапамаглі практычна ўваходзіць у новае жыцьцё, ствараць на эміграцыі сваё школьніцтва, сваю адукацыйную сыстэму з адною мэтаю: не згубіць моладзь, даць ёй добрую адукацыю й даць яе ў роднай мове.

Хацеў бы спыніцца на чацьвертай катэгорыі – перакладах мастацкіх твораў, хоць бы збольшага акрэсьліць агульную карціну зробленага эміграцыяй у гэтай галіне, якая да сёньня бадай што не рабілася аб'ектам самастойнага дасьледваньня[3]. Зрэшты, такая няўвага ўласьцівая й гуманітарным навукам у метраполіі; прыкладам, нават у апошняй па часе акадэмічнай гісторыі літаратуры XX стагодзьдзя, два тамы якой ужо пабачылі сьвет у Менску, таксама няма разьдзелу «Пераклады»[4].

Перакладная літаратура ўвайшла ў беларускую культуру ў XV–XVI стагодзьдзях. А вось ці ня першым асобным эміграцыйным перакладным выданьнем стаўся друк кніжачкі «Про багацтво і бедносьць» у 1881 годзе ў Жэневе. Гэта быў пераклад з украінскай брашуры, напісанай Сяргеем Падалінскім.

Трэба адзначыць, што беларуска-ўкраінскі ўзаемапераклад на эміграцыі мае даўнюю гісторыю. Гэта й зразумела: аб'яднаныя агульным ворагам на радзіме, яны й на выгнаньні спатыкалі падобныя перашкоды, таму й намагаліся дапамагаць адзін аднаму. Украінская газэта «Новини» (06.09.1946 г.) пісала: «Пераглядаючы нумары літаратурна-мастацкага часопісу «Шыпшына» і органу праваслаўных беларусаў «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі», міжволі даводзіцца паўтараць словы «Жыве Беларусь!», жыве краіна, доля якой у мінулым і сучасным такая падобная да долі нашага народу, а часам проста аднолькавая».

Прыязна складваліся асабістыя дачыненьні й паміж пісьменьнікамі, што таксама спрыяла перакладніцкай дзейнасьці. Перакла-

---

[3] Дзеля гістарычнае праўды трэба адзначыць, што адным зь першых аб перакладах напісаў Барыс Сачанка. Дзеля той самай праўды трэба й зацытаваць напісанае: «Пераклады. Іх няшмат, і амаль усе яны, за невялікім выключэньнем, не надта высокай якасьці». (Б. Сачанка. Сьняцца сны аб Беларусі... Мінск, 1990. С.62).

Першым сур'ёзным і бадай адзіным дасьледваньнем на сёньня варта лічыць артыкул В.Кіпеля *Notes on Belarusian-American-English Literary Relations*. Гл.: Запісы БІНІМ. 1992. № 20. С.108–118.

[4] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагодзьдзя. Т.1–2. Мінск, 1999.

далі шмат і ахвотна: Міхась Кавыль – Яра Славутыча, М.Рыльскага, П.Тычыну; Натальля Арсеньнева – М.Драй-Хмару; Алесь Салавей – Леаніда Палтаву; Масей Сяднёў – Славутыча й Палтаву; Уладзімер Дудзіцкі – Тараса Шаўчэнку; Янка Золак – Я.Пітруса, А.Навіцкага, Вол.Сьвідзінськага, Тараса Шаўчэнку, Лесю Ўкраінку[5]. У 1989 годзе ў Эдмантане было выдадзенае «Выбранае» Яра Славутыча ў перакладах М.Сяднёва, М.Кавыля, В.Бірыча (Ант. Адамовіча). У прадмове да кнігі Сяднёў называе аўтара «вялікім прыяцелем беларусаў»[6].

Ахвотна рабілі пераклады й з польскай мовы. Найбольш значным дасягненьнем, відаць, трэба лічыць зроблены ў 1956 годзе айцом Пятром Татарыновічам пераклад раману Г.Сянькевіча «Quo Vadis»[7]. Калі ж перакладалі творы сучасных польскіх паэтаў, кіраваліся, як і ў выпадку з украінскімі пісьменьнікамі, ня толькі мастацкімі крытэрамі, але й ідэалягічнымі: у першую чаргу даць пераклады тых, хто быў носьбітам нацыянальнай ідэі, уважаў сябе ворагам Савецкага Саюзу, расейскай палітыкі. Гэтак, у часопісе да публікацыі вершаў паэта Юзафа Лабадоўскага у перакладах Н.Арсеньневай і В.Бірыча падавалася рэдакцыйная ўрэзка: «Юзэф Лабадоўскі – выдатны сучасны польскі паэта, цяпер жыве на эміграцыі, у Гішпаніі. Нарадзіўся 19 сакавіка 1909 году ў Сувальшчыне. Бацька паходзіў з Украіны, маці зь Беларусі. У 1951 годзе ў польскім парыскім часопісе «Kultura» апублікаваў «Анталёгію беларускай паэзіі», у якой даў пераклады ў польскую мову вершаў Купалы, Багдановіча, Коласа, Жылкі, Арсеньневай, Танка, Геніюш, Хадыкі, Дудзіцкага, Сяднёва, Салаўя. Для азнаямленьня беларускага чыта-

---

[5] Палтава Л. Пераклады.[Алеся Салаўя, Натальлі Арсеньневай] // Конадні. 1955. № 3. С.47–48.; З украінскага. Пераклады [М.Кавыля, В.Бірыча] // Конадні.1955. № 4. С. 49–50; З украінскае літаратуры: Яр Славуціч, Ігар Кастэцкі, Леанід Палтава, Олэкса Вератэнчанка ў перакладах Масея Сяднёва, Янкі Юхнаўца, Алеся Салаўя // Шыпшына 1947. № 5. С.43–48; Золак Янка. Творы. 1981. Т.2. Разьдзел «З чужога палетку».

[6] Падрабязьней пра беларуска-украінскія літаратурныя сувязі гл.: Юрэвіч Л. Да гісторыі беларуска-украінскіх літаратурных сувязей // Беларус. 1998. № 454, травень. С.5.

[7] Sienkievič H. Quo Vadis. U biełaruskim pierakładzie ks. Dr. P. Tatarynoviča. Rym: [vydavectva biełaruskaha peryjodyka “ Žnič ”], 1956.

ча з паэтам і зь ягонымі дасканальнымі перакладамі зьмешчаныя тутака ягоныя вершы ў перакладзе ў беларускую мову й верш паэта Ўладзімера Дудзіцкага ў перакладзе ў польскую мову Ю.Лабадоўскага»[8].

Ідэалёгія перакладу ішла побач з культураю перакладу; істотна было ня толькі *каго* перакладаць, але і *як*. Патлумачу сказанае на прыкладзе «Песьні пра Зубра» Міколы Гусоўскага ў перастворы Натальлі Арсеньневай. Праца з перакладам пачалася яшчэ напрыканцы 70-х гадоў зь ініцыятывы дырэктара БІНІМу доктара Вітаўта Тумаша. Зробленыя на той час пераклады ён лічыў недасканалымі: Каспровічам – дакладны, але недастаткова паэтычны, са зьмененым рытмам, да таго ж нясканчаны; летувіскі пераклад В.Казлаўскаса – пэдантычна дакладным, але паводле памеру набліжаным да Каспровіча. Пераклад на расейскую мову менскага знаўцы лаціны Я.Парэцкага, наадварот, недакладным, бо перавышаў арыгінал на 72 радкі. Зробленае ж Язэпам Семяжонам ацэньваў як палітычную пераробку паэмы. Таму дырэкцыя БІНІМу прапанавала зрабіць з дапамогаю біскупа Чеслава Сіповіча новы пераклад, які б адпавядаў арыгіналу паэмы і ў мастацкіх якасьцях, і з палітычнага гледзішча. Праца зь перакладам была цяжкой, заняла нямала часу, і твор быў надрукаваны толькі ў 1996 годзе[9].

Захаваліся лісты Н.Арсеньневай да В.Тумаша, якія даюць уяўленьне ня толькі пра сам працэс перакладу, складанасьці, што паўставалі перад перакладнікам, але й пра тую розьніцу ў падыходзе да арыгіналу й перастворы паміж эмігранткаю Арсеньневай і падсавецкім дзеячом Семяжонам: «Даражэнькі спадар Доктар, нарэшце сабралася Вам адпісаць. Матар'ялаў да перакладу ў мяне цяпер, хіба, хапае. Ідэалам, праўда, быў-бы так званы падрадкоўнік – даслоўны пераклад прозай кожнага лацінскага радка, але я разумею, што пры нястачы ў нас сапраўдных лацiністых гэта немагчыма. І таму трэба абысьціся тым, што ёсьць. Каспровічаў пераклад бліжэйшы да арытмэтыкі, чымся да паэзіі, у ім чамусьці шмат чаго няма. Думаю, што пры карацейшым радку яму даводзілася выпу-

[8] Конадні. 1954. № 2. С.48–50.

[9] Запісы БІНІМ. 1996. № 22. С.4–34.

шчаць некаторыя падрабязнасьці. Але, ведама, калі «на чорна» перакладу ўсё, буду карыстацца й Каспровічам. Перакладаць, заглядаючы ў кажны радок, я ня ўмею. Бо калі чалавек занурыцца ў пераклад, словы й сказе *(гл.!)* неяк самі пачынаюць імкнуць, і перарываць іхны імпэт, штораз заглядаючы ў пераклад чужы, спрычыняесься да таго, што перарываецца натхненьне й трэба нанова «разаграваць машыну». Ну, а калі будзе скончана праца, дык «на халодна» можна будзе й пераглядаць, і параўноўваць, і папраўляць. Дагэтуль я пераклала 272 радкі. Ад Калядаў, у студзені, блізу нічога не пераклала, розныя клопаты і іншае не давала часу спакойна ўзяцца за працу. За тыдзень мяркуем ехаць у Флярыду, там – Вялікдзень, шмат за гэты час ня зробіцца. Але тады спадзяюся зноў паймкнуць наперад. Я перакладаю «Зубра» з прыемнасьцяй. Да душы мне й разьмер верша, зусім быццам вецер плыве на вершалінах дрэваў у пушчы. Гусоўскі, відаць, быў сапраўдным паэтам».

І яшчэ адзін ліст: «Даражэнькі спадар Доктар, зь вялікім спазьненьнем адказваю на Вашыя лісты ў справе «Песьні пра Зубра». Пераклад Семяжона прачытала пару разоў. Ён добры з аднаго боку, але немагчымы – зь іншых. Першае, ён цалкам супярэчыць асьведчаньням аўтара «Песьні». У адным месцы сам Гусоўскі кажа, што ён стараецца ўжываць толькі гэткія словы й выразы, якія будуць даспадобы ягонаму апекуну й працадаўцу, Біскупу Эразму Плоцкаму і «ў згодзе із станам сьвятарскім». А ў Семяжона раз-пораз гэткія выразы, як «нагой у азадак», «дрэйфіў», «адвальваў ня скупа» (гэта Вітаўт – сьвятарству!). Гэтаксама ў яго поўная супярэчнасьць з аўтарам у паглядзе на князя Вітаўта. Для Гусоўскага Вітаўт – ідэал, якім ён захоплены, а ў Семяжона Вітаўт «князь вар'ят», із «шалёнай прыхамацяй», «факельшчык войнаў са слабым, а з дужым – анёл-міратворца». Тэндэнцыя тут гэткая выразная, што нават не патрабуе аніякае праверкі з лацінскім тэкстам. Калі я скончыла чытаць, у мяне застаўся вялікі нясмак, ну й пратэст. У расейскім перакладзе нічога гэткага няма. Пераклад гэты спакойны, у меру паэтычны і амаль заўсёды у згодзе з аўтарам «Песьні». Вітаўта Парэцкі нідзе ня лае. Ды й мова ягоная скрозь «у згодзе із станам сьвятарскім».

Паколькі размова зайшла аб Н.Арсеньневай, хацелася б згадаць і іншыя творы, перакладзеныя ёю, адзначыўшы шырыню абсягу:

Уільям Шэксьпір «Рамэа і Джульета. Пралёг»[10], Г.фон Кляйст «Разьбіты кубак»[11], Гэргард Гаўптман «Затонуты звон»[12], вершы Гётэ, Адама Міцкевіча (у тым ліку ўрыўкі знакамітых «Дзядоў»[13]).

Пры параўнальнай нешматлікасьці перакладаў мастацкай літаратуры ўсё ж набытак даволі значны. Асобнымі выданьнямі выходзілі кнігі Р.Стывэнсана «Чортава бутэлька»[14], Оскара Уальда «Шчасьлівы прынц»[15], Д.Дэфо «Рабінзон Крузо»[16], Д.Суіфта «Падарожжа Гулівэра да волатаў у краіне Бробзынгнаг»[17], «Парсіваль»[18].

Друкаваліся цэлыя блёкі перакладных твораў; прыкладам, у адным з нумароў часопіса «Сакавік»[19] пад рубрыкаю «З сусьветнае скарбніцы» былі надрукаваныя імпрэсія «Выгнанец» Дэ Лем'ен у перакладзе І.Дальняй, «Зварот у далі дзён маленства» Уільяма Сараяна ў перакладзе М.Вольнага, казка Г.Х.Андэрсэна «Сьвінапас» у перакладзе Ул.Ш-ца, а таксама пачатак казачнай драмы Г.Гаўптмана «Затонуты звон».

Уладзімер Клішэвіч пераклаў рубаі Амара Гаяма, якія да сёньня адзіна ведамыя нам у беларускай мове[20]. Сваімі перакладамі зь

[10] Наперад (Лювэн). 1953. № 25. С.51–55.

[11] Пераклад быў зроблены ў 1943 годзе ў Менску.

[12] Сакавік. 1948. № 1 (2). С.26–34; Конадні. 1954. № 1. С.52–68; Конадні. 1954. № 2. С.51–67.

[13] Арсеньнева Н. Між берагамі. Ню Ёрк, 1979. С.309–317.

[14] Стывэнсан, Робэрт Люі. Чортава бутэлька. Пераклад з ангельскае Б.Г. [Баляслаў Грабінскі] і В.Т.[Вітаўт Тумаш]. Ватэнштэт, 1947.

[15] Уайльд, Оскар. Шчасьлівы прынц. Пераклад з ангельскай Л.Хвалько. Ватэнштэт, 1947. Шкода, што пра гэтыя пераклады нічога не вядома ў Беларусі сёньня. Гэта ня мёртвая спадчына; перавыдадзеныя, творы й зараз могуць працаваць на культуру. І ня трэба было б тады, друкуючы пераклад турэмнай споведзі Оскара Уальда ў часопісе «Крыніца», згадваць як адзінае выданьне «Салавей і Ружа» 1978 году (Дубянецкая Галіна. Пра жэўжыкаў і горкія лекі // Крыніца. 2001. № 64. С.132).

[16] Дэфо Даніэль. Рабінзон Крузо. Пераклаў з ангельскае мовы на беларускую С.Коўш. Ватэнштэт, 1947.

[17] Swift, J. Падарожжа Гулівэра да волатаў у краіне Бробзынгнаг. Пераклаў В.П.[Вацлаў Пануцэвіч]. Фленсбург, 1949.

[18] Парсіваль. Сярэдневяковая легэнда. Пераклад зь нямецкае Л. Галяка. Выдавецтва «Я.С.». Ватэнштэт, 1947.

[19] Сакавік. 1948. № 1 (2). С.26–37.

[20] Гл. Юрэвіч Лявон. Архіўная кніга. Нью Ёрк, 1997. С.212–256.

Мікельанджэла, Гётэ, Гайнэ, Мёрыке ведамы Масей Сяднёў[21]. Рыльке перакладаў і Алесь Салавей. Міхась Кавыль, акрамя згаданай ужо ўкраінскае мовы, перакладаў з ангельскае (Норман Гімбел), польскае (В.Гамуліцкі, Л.Падгорскі-Аколаў), расейскае (Б.Пастэрнак).

Але перакладамі займаліся ня толькі прызнаныя пісьменьнікі, ды друкаваліся яны ня толькі ў «Конаднях» ці «Сакавіку», «Бацькаўшчыне» ці «Беларусе». Навучаньне замежным мовам, як сучасным, гэтак і клясычным, вольны доступ да карыстаньня культурным набыткам Захаду давала магчымасьць беларусам розных пакаленьняў, рознай адукацыі паспрабаваць сябе ў перакладзе[22].

Адсутнасьць муру – як палітычнага, гэтак і моўнага – паміж пісьменьнікамі, эмігрантамі зь Беларусі, і вольным сьветам, дазваляла ня толькі далучацца да таго, што мы звыкла мянуем здабыткамі сусьветнай культуры, але й – што ня менш істотна – рабіць гэта своечасова, не запозьнена – на гады й дзесяцігодзьдзі.

Прыкладам, калі ў 1950 годзе да друку рыхтаваўся чарговы, 10-ты нумар часопісу «Шыпшына», акрамя апавяданьня Сараяна «Грунт пад нагамі» ў перакладзе М.Вольнага і ўрыўка з раману С.Максімава «Алім Ахтураў у Патокіна» у перакладзе Юркі Віцьбіча, акрамя перакладаў Ул.Клішэвіча з Сафо й М.Кавыля з Гётэ, мелася быць надрукаванай Нобелеўская прамова Ўільяма Фолкнэра 1949 году (у перакладзе Міколы Вярбы (Сільвановіча): «Я адчуваю, што ўзнагарода гэтая прысуджана ня мне, як чалавеку, але маёй працы – працы майго жыцьця, што складаецца з поту й ду-

---

[21] Сяднёў Масей. А часу больш, чым вечнасьць. Глен Коў; Нью Ёрк, 1989. С.61–91; Ён жа. Масеева кніга. Мінск, 1994. С.183–192. Дарэчы, цікава параўнаць перакладніцкую дзейнасьць М.Сяднёва з мастацкай літаратуры, разуменьне ім важнасьці перакладаў для разьвіцьця нацыянальнай культуры – і адначасова непрыманьне й неразуменьне ня меншай важнасьці перакладаў рэлігійных тэкстаў (Сяднёў М. Да пытаньня перакладаў рэлігійных тэкстаў на беларускую мову // Беларусіка 5: Культура беларускага замежжа. Беларуска-Амэрыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненьні». Мінск, 1995. С.71–74).

[22] Напрыклад: Фэдрус. Варона і ліса. Воўк і ягнё. Жаба і вол. Ліса і вінаград. Пераклады баек з лацінскае мовы. Перакладаў М.Фабулевіч // У выраі. 1947. № 1. С.28–29; Два залатыя яблыкі: Калядная зага зь Ніжняе Аўстрыі. Пераклаў Ал. Крыжаноўскі // Сьветач Хрыстовае навукі. 1961. № 12 (60), сьнежань. С.7–8.

шэўных пакутаў і рабілася ня дзеля славы й меней за ўсё дзеля выгады, але дзеля таго, каб з матар'ялаў чалавецкага духу стварыць нешта тое, чаго дагэтуль не існавала. Такім чынам, я лічу, што ўзнагарода гэтая мне не даецца, але толькі даручаецца. Няцяжка будзе знайсьці грашоваму ейнаму боку прыстасаваньне. Але я хачу знайсьці-ж такое прыстасаваньне й зьвязанай з гэтай узнагародай вядомасьці, карыстаючыся гэтым момантам, як вяршыняй, зь якой мяне, магчыма, пачуе мужчынская й жаночая моладзь, што прысьвяціла сябе такой-жа пакутнай працы й што ўжо мае ў сваім асяродзьдзі таго, хто калісьці будзе стаяць на тым мейсцы, дзе зараз стаю я.

Сучасная нашая трагедыя – усеагульны й паўсюдны фізычны жах. Мы адчуваем яго гэтак доўга, што ён робіцца нязносны. Гэта ўжо не духоўная праблема. Цяпер гэта толькі пытаньне: калі мяне ўзарвуць у паветра. У сувязі з гэтым малады пісьменьнік спакідае без увагі праблемы чалавечага сэрца – адзіныя праблемы, якія з'яўляюцца крыніцай добрае гістарычнае працы, бо гэта адзінае, аб чым варта пісаць, бо толькі яно заслугоўвае працы й пакутаў»[23].

Аўтары перакладаў адгукаліся ня толькі на запатрабаваньні часу, але й на канкрэтныя патрэбы беларускай справы. Прыкладам, пераклады вершаў Эзры Паўнда ў выкананьні Янкі Юхнаўца, Зоры Кіпель і Янкі Запрудніка (адцемім – не перакладнікамі па фаху) суправаджаліся наступным тлумачэньнем: «Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва надоечы атрымаў запытальнік аб перакладах твораў Эзры Паўнда на беларускую мову для ўключэньня ў бібліяграфію, якая рыхтуецца ды неўзабаве мае выйсьці ў амэрыканскім выдавецтве. Зь ініцыятывы Інстытуту зроблена колькі першых перакладаў вершаў Эзры Паўнда»[24]. Інакш кажучы, пераклад быў выкарыстаны для зазначэньня самога назову *Беларусь* у амэрыканскім бібліяграфічным даведніку сусьветнавядомага паэты – вось тое клясычнае паяднаньне ідэалёгіі й культуры ў перакладах эміграцыі.

[23] Пра нявыдрукаваны нумар часопісу «Шыпшыны» й матэрыялы зь яго гл.: Літаратурная спадчына: новы ўгляд // Беларус. 1996. № 432, люты. С.7.

[24] Запісы БІНІМ. 1989. № 19. С.150–157.

Янка Юхнавец пазьней надрукаваў нізку перакладаў яшчэ адной культавай постаці заходняй культуры – Томаса Эльліота[25].

Гаварыць аб перакладах на эміграцыі і абмінуць постаць Яна Пятроўскага – бадай немагчыма. Хоць ягоная дзейнасьць добра вядомая, дазвольце прынамсі пералічыць тыя выданьні: Вільгэльм фон Гумбольдт «Унутраная форма мовы» (1988), Вэрнэр Ёгер «Тэалёгія грэцкіх думаньнікаў» (1980), «Роздумы» (1978) Марка Аўрэлюса (супольна з М.Кавылём). І, вядома, пераклады «Дыялёгаў» Плятона. Пры ўсіх магчымых (і часам даволі слушных) закідах аўтару перакладаў трэба прызнаць: нічога падобнага ў Беларусі ня зроблена да сёньня – ня толькі апантанымі адзінкамі, але й цэлымі калектывамі.

Вядома, тут згаданае далёка ня ўсё й ня ўсе. Але нават пералічанае – як ацаніць? Багаты ўнёсак? Малы?

Адказ будзе відавочны, калі плён эміграцыі параўнаць з справаздачаю Саюзу пісьменьнікаў Беларусі (а гэта больш за 500 сяброў) за пэрыяд паміж XII і XIII зьездамі (1998–2001 гг.) у галіне мастацкага перакладу (матэрыял “Арганізацыйна-творчая работа Саюза беларускіх пісьменьнікаў” надрукаваны ў газэце “Літаратура і мастацтва” за 25 траўня 2001 г.). Дык вось, «на працягу міжз’ездаўскіх гадоў друкаваліся ў літаратурных выданнях пераклады на беларускую мову»: з баўгарскай – 15 перакладнікаў; з расейскай – 11; з польскай – 8; з украінскай – 18; зь нямецкай – 7; з латыскай – 3; зь летувіскай – 3; з славацкай – 6; з францускай – 4; зь сербскай – 1; з швэдскай – 1; з кітайскай – 1; з курдскай – 1 перакладнік[26].

Дасюль гаварылася пра пераклады ў беларускую мову, пра тое самае вакно на Захад. Час сказаць і пра значнасьць культурнага вакна на Ўсход – пра пераклады зь беларускае мовы.

У 1948 годзе Мікола Вольны (Панькоў) у артыкуле «Сусьветная літаратура й мы»[27] выказаў наступнае: «Калі найперш папытаемся,

---

[25] T.S.Elliot у перакладах Янкі Юхнаўца // Беларус. 1999. № 462, красавік–травень. С.7.

[26] Літаратура і мастацтва. 2001. № 21, 25 траўня. С.5.

[27] Сакавік. 1948. № 1 (2). С.38–39.

што-ж гэта гэткае сусьветная літаратура, дык адразу пабачым, што гэтае паймо вельмі туманнае. [...] Шукаючы паважнага уяўленьня аб сусьветнай літаратуры, часова можам чыста тэхнічна адзначыць яе гэтак: да сусьветнае літаратуры належаць тыя творы, якія перакладзеныя ў 4-5 вялікіх, г.зв. сусьветных моваў. Найперш успомнім ангельскую, францускую, нямецкую, пасьля яшчэ італьянскую й гішпанскую мовы. Маскоўская мова дзеля пашырэньня твораў блізу ня мае ніякага значэньня. [...] Найперш трэба, каб творы нейкага пісьменьніка пераклалі ў вадну з 4-5 вялікіх моваў».

І гэтак сталася! Эмігранты самі або сваім уплывам на людзей іншых нацыянальнасьцьяў спрыялі перакладу ў заходнія мовы клясычных твораў нашай літаратуры. Паколькі для ацэнкі зробленага ў дачыненьні да твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа існуе выдатная бібліяграфія «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе», укладзеная Зораю Кіпель і Вітаўтам Кіпелем, дазволю сабе не спыняцца на гэтых перакладах.

Перакладалі й Максіма Багдановіча. Адным зь першых, у 1948 годзе, часопіс «Сакавік» зьмясьціў пераклады двух вершаў пад назовам «Максім Багдановіч па-нямецку» – «Meine Lieder» і «Emigranten», пазначыўшы, што «вершы гэтыя ўзятыя з падрыхтаванага да друку ў нямецкай мове зборніка вершаў Максіма Багдановіча ў перакладзе Аўгена Энгельгардта»[28]. У тым самым годзе газэта «Бацькаўшчына» выдрукавала некралёг Аўгена фон Энгельгардта, напісаны В. Максімовічам (Вітаўтам Тумашам) і зьмясьціла побач верш у перакладзе нябожчыка «Mein Letzter Wunsh». У ягоным жа перакладзе ў 1996 годзе быў надрукаваны і «Апокрыф»[29]. Усім вядомыя, што сталі ўжо амаль клясычнымі, пераклады вершаў Багдановіча ў ангельскую мову, зробленыя спадарыняй Вераю Рыч, чыя анталёгія «Як агонь, як вада» й сёньня зьяўляецца ўнікальным выданьнем; прычым унікальным і ў станоўчым пляне – сваёй якасьцю, ахопам, і ў адмоўным – тым, што яна адзіная.

Вельмі істотным уяўляецца той факт, што эмігранты переклада-

[28] Сакавік. 1948. № 2 (3). С.31.

[29] Запісы БІНІМ. 1996. № 22. С.35–44.

лі не адно клясыкаў, але й сучасных пісьменьнікаў, таксама эмігрантаў. Гэтак, канадыйская газэта *The Winnipieg Tribune* за 24 сьнежня 1952 году зьмясьціла ці ня першы ў ангельскай мове твор эмігранта-беларуса – апавяданьне Вольгі Таполі *Orphan of Forest Wept* з пазначэньнем «Беларуская народная легенда» ў перакладзе Леон Косар. Нашмат раней, у 1947 годзе, Ю.Вітан-Дубейкаўскаю ў нямецкую мову быў зроблены пераклад кнігі Сяргея Хмары «Аб багох крывіцкіх сказы» – *Ueberlieferungen von den Goettern der Kriwitschen (Weissruthenischer Mythos).* Але пераклад быў адбіты ў толькі некалькіх асобніках у лягеры Ватэнштэт, а таму застаўся невядомым шырокаму колу нямецкамоўных чытачоў і беларускіх дасьледнікаў.

Ёсьць і свае загадкі ў перакладніцкай дзейнасьці нашае эміграцыі. Адна з найбольшых, як для мяне, – пераклады, і шматлікія, вялікай колькасьці твораў беларускіх пісьменьнікаў у англамоўнай кнізе Антона Адамовіча «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры». Ці сам аўтар рабіў усе пераклады, ці хто дапамагаў яму?

Магчыма, самай перакладальнай кнігаю сталіся ўспаміны айца Язэпа Гэрмановіча «Кітай–Сібір–Масква», што былі выдадзеныя ў летувіскай[30], італійскай[31], польскай мовах[32]. Вяліся перамовы аб перакладзе і ў ангельскую мову.

Сьведчаньнем роўню, дасягнутага эміграцыяй у перакладніцкай дзейнасьці, і пэўным сымбалем і гэтай дзейнасьці, і самой эміграцыі, урэчаісьненай ідэяй яе бачыцца мне «Беларускі Трыстан», перакладзены сп. Зораю Кіпель у ангельскую мову[33]: твор заходняй культуры, перакладзены ў беларускую мову, які ўспрымаецца як твор нашае культуры, «вярнуўся» на Захад у перакладзе дзеяча дыяспары.

---

[30] Hermanovicius, Juozapas, Mic, Kun. Raudonuju Stovyklose…Londonas, 1969.

[31] Hermanovič, Giuseppe. Cina–Siberia–Mosca. Marx e Lenin in Ralta. Roma: Ed. Paoline, 1969.

[32] Hermanovicz, J., Ks. Chiny–Sybir–Moskwa. Wspomnienia misjonarza z lagryw sowieckich. Londyn: Veritas, 1966.

[33] The Byelorussian Tristan. New York: Garland Publishing, 1988. Ёсьць таксама пераклад нашага «Трыстана» ў італійскую мову: Il Tristano biancorusso / Emanuela Sgambati. Firenze: Sansoni, 1983.

Як напісаў у вершы менскі перакладнік «Трыстана» ў сучасную беларускую мову, што да гэтага пераклаў працу Янкі Запрудніка «Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях»[34], Мікола Раманоўскі:

Зацъны чытелнику, рачъ ей не гребовати
Ани зла на тлумача въ срдцу не ховати,
Лечъ што ся знаиде неслоушне выписано,
ласкаве тое поправити[35].

[34] Запруднік Янка. Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях. Мінск, 1996.

[35] Раманоўскі М. Епикграмма на законъчене преложеня Трышанова // ARCHE. 2000. № 9. С.90.

## BELARUSIAN POETRY IN EMIGRATION, 1945–1990

*Vera Rich*

*Артыкул Веры Рыч – кароткі агляд паэзіі беларускае паваеннае эміграцыі. Аўтарка адзначае, што цягам дзесяцігодзьдзяў эміграцкая паэзія не была часткай літаратурнага працэсу ў Беларусі. Калі творы беларускіх аўтараў траплялі да эмігрантаў, то адваротнага працэсу не было. Тэма тугі па радзіме і патрыятычны запал былі заўсёдным элемэнтам літаратурнага жыцьця на чужыне. Адначасна аўтараў вабіла імкненьне ствараць новыя формы й ідэі. В.Рыч спрабуе ўявіць, як паэзія беларускага замежжа будзе ўспрымацца праз сто гадоў. На ейную думку, шэраг паэтаў могуць стаць часткай канону – але не асобнай школы – беларускае літаратуры. Напрыканцы В.Рыч прапануе колькі перакладаў з паэзіі Натальлі Арсеньневай.*

To deal adequately with the subject of Belarusian poetry in emigration, to consider the works of each poet, their mutual influences, and the relationships between their work and – on the one hand – their host culture, and on the other developments in the Belarusian homeland, would require long and detailed study. It would need not a brief conference presentation, but at least a whole conference to itself, maybe many conferences.

All that I can hope to do today is to present a few thoughts on how this émigré poetry fits into the whole development of Belarusian literature on the one hand, and, on the other, how it has been influenced by the specifics of this particular emigration – and, perhaps, to suggest some ideas which may give rise to more detailed research.

In 1992, only a few months after the collapse of the Soviet Union, *Tuha pa radzimie,* an anthology of émigré poetry appeared in Belarus. This book had apparently been put together to take advantage of the *glasnost-perestroika-demokratizatsiya* concessions of Mikhail Gorbachev. It is a thick work, however – some 600 pages of poetry – and I cannot help wondering if someone (and not necessarily the named

compiler Barys Sačanka) had in fact been quietly at work for some time before hand, discreetly assembling what he could of this 'missing' chapter of Belarusian literary history.

This book – as I said – is a thick one. However, when one comes to examine it more closely, one finds that perhaps half the material involved was produced in the Belarusian homeland (whether under Soviet or Polish rule), before or during World War II. These poets' emigration not only deprived the Belarusians at home of access to their new work – it also effectively deprived them of what those poets had written in the past.

There could be no ongoing literary dialogue between homeland and Diaspora – the post-World War II exiles could, of course, (except in the very early, Stalin, years), read new works from Belarus; they might even be inspired to write an 'answer' to it – but that 'answer' would in most cases never be delivered. The flow of contact was, effectively, one way.

Another important point was that this was a relatively small and new emigration. Unlike, say, the Ukrainian émigrés who found waiting for them a culturally-developed Diaspora, with a well-established press and publishing houses, the Belarusian emigration had to build its cultural life from scratch. And those first years, while they were still in the DP camps, they made did so with remarkable results – consider such journals of that time as *Sakavik* and *Šypšyna.* The production methods and physical materials were necessarily modest – the literary content, however, was not.

However, publishing requires both resources and a potential readership... Time went on, and the émigrés dispersed to whatever lands of settlement would take them. Hard work brought prosperity, and resources gradually became available for more substantial publications – physically speaking. But the relatively small size of the Belarusian Diaspora and the dispersion of its literary intelligentsia was hardly conducive to the regular and on-going literary contacts which so often generate new and exciting developments in poetry. And, in those early days, contact between say, a poet in Australia and one in Venezuela could be only by letter – yet poetry is an art where the sound of the poet's voice is often even more stimulating that the written word. Likewise publications of a purely literary kind tended to be 'occasional'

rather than regular… there was never a Belarusian literary monthly of the stature, say, of the Polish *Kultura* or the Ukrainian *Suchasnist'*. On the other hand – the small and for the most part scattered Diaspora meant that there were of necessity fewer patriotic gatherings and *akademii*, which in more populous émigré communities doubtless achieve their purpose of keeping patriotic memory alive, but also – all too often – generate a plethora of *vers d'occasion*, impeccable in national ideology, but with poetic quality ranging from adequate down to… well, you name it. The poets of the Belarusian emigration did, of course, address patriotic themes, and, over the years, many of these works have, indeed, been used in patriotic celebrations – but their works bring new insights to those themes, as well as a considerable degree of technical skill. Thus Salaviej's *Nad Słuckam dnieje* not only reveals what may be called the poet's inner vision – the image of the undying warrior knight – but also his skill in using the chosen sonnet form (note the 'natural break' between octave and sestet, where the poet moves from contemplating the vision of the knight to direct invocation of the *Ahni žyvyja, iskry listapadu*).

This matter of what I have termed 'academia verse' is an aspect of the centuries-long debate over the poet's role in society. Is he, as Aristotle's *Poetics* would imply, a kind of civic therapist, providing a purgative for emotions that otherwise might threaten public order? Or is he – as Romanticism would have it – a lone, misunderstood figure, writing for to vent his own, unbearably intense, emotions. The truth, of course, lies somewhere between – but in considering the work and role of the émigré poet one needs to pay heed to both polarities.

The equivalent 'civic' role of a poet in émigré conditions can be viewed in a number of ways – to inspire and hearten his fellow-émigrés, and to keep alive and embody the traditions of national culture now proscribed in the homeland. The conditions of the Belarusian emigration entailed, as I have said, relatively little pressure on the poets to produce 'academia-patriotic verse'. This left them free to write about Belarus at the level of their own longing and yearning (the title of the 1992 anthology is – we may recall – *Tuha pa radzimie*); the sense of loss, and the contrast between the new landscapes and their vanished homeland. This is, not surprisingly, particularly evident in the early years:

О, Афрыка! Крывіцкай была б ты,
Каб Нёманам быў твой паўнаводны Ніл...

wrote Sałaviej in 1949 in *Pierad viasnoj,* and again, in *Za Port Said,* written presumably on the same voyage, he speaks of his *"Biazdomny šlach biaźlitasny i žorstki".* The poems in the Diaspora-published anthology *La čužych bierahoŭ,* (1955) are rich in such geographical and topographical allusions – the Alps, the Statue of Liberty…

But always, openly or as subtext, the message is that these wonders are not, cannot, ever be anything but second best.

О, Новы Край,
як гулі
спыніўшы, хваля нас да порту прыжане,
будзь нам прытулкам цёплым і утульным,
але ня Бацькаўшчынай,
не!

wrote Arsieńnieva in *Kab sercy Vikinhaŭ my mieli.*

The yearning did not, of course, decrease with the years. In his collection *Darohi,* published in 1974, Krušyna refers to numerous travels, many of which – like a tourist trip to the Holy Land – clearly do not date from the journey into exile. Yet the yearning remains.

Я сёньня ў Мадрыдзе, а заўтра ў Нью-Ёрку.
Пакіну пачуцьці па добрых краінах.
Ёсьць песьні на ўзмор'і, узьлесьсі, узгорку,
Гучаць на пяскох, на сьсівелых руінах.
А ўсё ж наймілейшая песьня, што зроду
Я чуў ад бацькоў, і ў тым прызнаюся:
Яна ня сьціхае на вуснах народу
Маёй сэрцагрэйнай жывой Беларусі.

Krušyna, however, was not prepared simply to yearn for Belarus. He wanted, albeit in exile, to enrich Belarusian literature, to add to it poems in classical forms never used in it before. In the preface to his collection *Sny i mary* (1975), he pays homage to his predecessors in this field: Bahdanovič, Duboŭka, Pušča, and, in emigration, Michaś Kavyl and Aleś Sałaviej who produced examples of the sequence known as a 'crown of sonnets'. However, he points out, many classical forms had

never been tackled in Belarusian: including the Villanelle, the Sestina – and the palindrome (in which each line can be read either backwards or forwards – a form which he himself had earlier assayed in the collection *Chvilina rozdumu*). One has to point out, however, that some of his pioneering versions do not always fulfil the accepted rules – his Sestina, for example, brilliantly manages the permutations of the six key-words through the six full stanzas; he also adds the additional refinement of rhyme, which is – at least in English – not normally considered obligatory for this verse-form, but which adds a wonderful mathematical music, reminiscent of 'changes' rung on a peal of bells: the first stanza rhyming *ababab*, and then, after the permutations *baabba*, *abbaba aabbab baaabb* resolving to the satisfying conclusion *aaabbb*. Should one really carp therefore over the fact that he has omitted the usual three-line closing stanza of this form? Likewise, his 'Haiku' are – strictly speaking – not Haiku at all. He reproduces the seventeen syllable/three lines pattern of the Japanese form correctly, but not the content – the encapsulation of a single mood and moment, with an obligatory 'seasonal reference'. A poem like

> Месяц, чуеш ты,
> Чый праходзіш цьвёрды крок?
> Чалавек – твой госьць.
> (which I would render:
> Moon, do you hear it,
> Someone walks with heavy step?
> It is man – your guest.)

is, properly speaking, a Senryu – a Japanese verse-form which is identical in its externals with the Haiku, but without the latter's constraints of subject-matter. (In fairness to Krušyna, however, I must point out that since the form first achieved world-wide popularity in the early 1960s, the pages of poetry magazines have abounded in *soi-disant* Haiku that are Senryu – to say nothing of the tens of thousands of pseudo-Japanese three-liners which do not even keep the syllable count at all).

Krušyna's efforts to extend the repertoire of forms in Belarusian poetry raise another interesting question: does émigré literature, in the long run, form part of the literature of the homeland? In other words,

looking forward, say, to the year 2101, with Belarus a prosperous, happy and sovereign member of whatever supranational order then prevails in Europe – will poets like Krušyna and Sałaviej be studied as an integral part of Belarusian literature – or will they be hived off into an optional course on the '20th century émigrés?

Will the average 22nd-century school-child – or even undergraduate – perceive any obvious difference between the fables of Vincuk Advažny or those of, say, Kandrat Krapiva? Will the poems Maciej Siadnioŭ datelined *Glen Cove* seem very different from those of Piatro Broŭka's from *Oyster Bay*? (Broŭka's *Footpath near New York* is, after all, redolent with the nostalgia of the exile for the homeland – even though his 'exile' was only the temporary one of a diplomatic posting.) In the anthologies of that future era, will it be possible, without recourse to 'notes at the back' to see who was, and who was not an émigré?

There will, of course, be certain 'internal' clues from subject and approach which point to an émigré provenance: Siadnioŭ's *Malitva,* for example, could hardly be attributed to a Soviet milieu. But the very factors which have vitiated against the formation of émigré literary clubs and circles have meant that the poets of the Belarusian emigration have worked and developed as individuals. The New York Ukrainian émigré poets of the 1960s will doubtless remain forever the 'Suchasnist' group' – contemporary to, but separate from – the 'Shistydesyatnyky' in the homeland. But Belarusian émigré poets, if they achieve a lasting place in canon of Belarusian literature, will surely do so as part of the mainstream.

And who will go into that canon? Surely all those assembled by Sačanka to fill the holes torn in the Belarusian literary tapestry: Zołak, Zmahar, Smaleniec, Siadnioŭ, Sałaviej, Kavyl, Advažny, Kliševič, Dudzicki, Krušyna, Iljaševič, Jasień, Biarozka… And, of course, the doyenne of them all – Natalla Arsieńnieva, whose work – pre-émigré and émigré – occupies no less than one-quarter of *Tuha pa radzimie.*

To give, in the brief time at my disposal, even the most superficial treatment of the work of this fine poet is impossible. The richness of her language, the subtleties of her use of rhythm, her blending of what might be called 'standard' patriotic motifs with her own personal insight…

Rather than discuss her work, I should like to use the time remaining

to me to present to you a few of my English versions of her work – drawn not only from her émigré writings – but from her whole long literary career.

**MY NATIVE LAND**

My native land lies in the south,
Yet that land is unknown to me,
And only in my thoughts can I
Wing to the far shores of that sea.
Not Adjument with wild-grown roses,
Nor the mountains, mist-veiled, proud,
Nor the sea's eternal singing,
That lures to its blue space profound –
No, of these matters I know nothing,
Another land have I loved long,
No seas nor mountains to adorn it,
But there I learned of grief and mourning,
And there it was my soul grew strong.

**HAPPINESS**

Happiness is like the sun.
Gently gliding,
A little cloud into the bright sky will come,
And the sun shines at once dimly, unbrightly,
Swiftly the sunlight is gone.
Happiness is like the spring cherry-flowers.
And the wind blows and the spring starts to mourn,
Down to the mud petals fall in snow showers.
Swiftly the blossoms are gone.
Happiness is like our fair and bright daydreams,
And a harsh word comes, a comment, just one,
And straightway into a fire they are blazing,
Swiftly the daydreams are gone.

**IF WE HAD THE HEART OF VIKINGS...**

Today the sea is of the self-same colour
Which sometimes the green ice at Candlemas may wear.
And seeking for a path, rending it dully.
The ship strikes, and the "ice" –
 it tinkles, tinkles there...
But why?
 Of what are its green bells, like heralds, speaking?
Why do we listen to them, whither sail we on?
What have we left behind? What today are we seeking,
Speeding after the sun?
 For a new world unknown?
Of old, straining their muscles and the canvas
Of eager, hungry sails, speeding like us, there broke
Into the distance – Vikings!..
 And with them sped valour
And thurst for mysteries, and transient glory's smoke.
If, bell-like, Viking hearts in us were also beating,
Straightway we would reverse the sails, reset them,
 eastward-bound,
To where their tears, their soul, our people, grieving
Have wept away their grief and mould-covered despond.
Alas, we are no Vikings!..
 O New World,
 when waves shall
Ceasing their merriment, bear us upon their flow
To port, be thou a warm and cosy haven,
But the land of our fathers –
 No!

**UNDER THE BLUE SKY**

From woe's grim songs, unlovely measures,
From nightmares of this earth of grey,
To the sky's ocean, the sky's azure,
Lift now your seeking eyes, straightway
In the blue sky is no despair, to
Quench all things slowly with dull might,
Under the blue sky all seems fairer,

And life, as if in dreams, is shines bright.
Life is a strange and wondrous flying,
An inspiration, without tears.
In the sky's azure, never-dying,
In endless festal flow the years.
Then to the sky's unshadowed kingdom,
From grimness to life soaring high,
On the white plumes of daydreams winging,
Bard, to seek the word's wonder – fly!

**TO YOUNG POETS**

You have cast off humility, patience and God,
Stretch no hand to your future with a beggar's yearning.
Your verse strikes at people as with whip or rod,
And with lightning fires it sets the conscience burning.
I should like to blaze like you, to strive and fight,
At your side to forge the long-awaited dawning.
But these days of mine possess far different rights,
With the linden's drifting gold, attracting, drawing.
My days flower like mist above fields shorn of grain,
Sail into the distance of the cobwebs' silver,
Chime with the tin-bright notes of autumnal rain,
In the copper heather of the woods, grow chilly.
Like the golden autumn, above life I stand,
Gazing down on it. Though straggle round me wars now,
My verse drifts across the marshes' drowsy span,
Like grisaille of mist upon an autumn morning.

**IF I HAD WINGS**

The sun in a net is imprisoned,
A net that the rainclouds have spun,
If wings of a hawk I were given,
Then cloudwards my path I'd have striven.
To unbearable heat of the sun.
Let my eyes grow dim and sightless,
Let my singing forever be dumb,
Let people hate and deride me,
If my spirit has winged to the sun!

# ЯКУБ КОЛАС НА ЗАХАДЗЕ

*Марыя Міцкевіч*

З шматлікіх даведнікаў і падручнікаў у нашай сьвядомасьці ўжо даўно замацавалася фраза: “Творчасьць Янкі Купалы і Якуба Коласа выйшла далёка па-за межы нашай краіны і становіцца ўсё больш вядомай у сьвеце”. Але што стаіць за гэтымі словамі? Якім сапраўды паўстае Я.Колас перад замежным чытачом? Якія вучоныя па-за межамі Беларусі прысьвяцілі яму свае навуковыя працы? У якіх краінах друкаваліся творы славутага беларускага песьняра? Як ставіліся да асобы Я.Коласа і яго творчай спадчыны прадстаўнікі шматлікай беларускай эміграцыі ў Заходняй Эўропе, ЗША, Канадзе? На жаль, на сёньняшні дзень не існуе манаграфіі ці грунтоўнага дасьледваньня, прысьвечаных гэтай тэме.

Вялікай дапамогай у пошуку матэрыялаў, прысьвечаных Я.Коласу ў эміграцыйных выданьнях, стала бібліяграфія “Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе”, выдадзеная Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку ў 1985 годзе. Укладальнікі бібліяграфіі – вядомыя навукоўцы, дзеячы беларускага замежжа Зора і Вітаўт Кіпелі. Яны імкнуліся зарэгістраваць усё, што пісалася пра Купалу і Коласа на Захадзе. У бібліяграфію былі ўлучаныя працы з іншамоўнага друку, пераклады на славянскія і заходнеэўрапейскія мовы, рукапісы, якія захоўваюцца на Захадзе, перадрукі твораў Я.Коласа, зробленыя на Захадзе ці то дзеля рэдкасьці твора, ці новага камэнтаваньня такімі аўтарамі, як Антон Навіна, Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч ды інш. Выданьне Кіпелямі бібліяграфіі безумоўна сталася значным укладам у агульнае беларусазнаўства і коласазнаўства, пуцяводнай зоркай на небасхіле эміграцыйных і замежных выданьняў, адкрыла новыя крыніцы для навуковай працы. Дзякуючы гэтаму выданьню сталі магчымыя мэтанакіраваны пошук і зьбіраньне матэрыялаў эміграцыйнага друку, прысьвечаных Я.Коласу.

Каштоўная і багатая дакумэнтальная база для навукоўцаў – Беларуская бібліятэка і музэй імя Ф.Скарыны ў Лёндане, дзе захо-

ўваюцца творы Я.Коласа ў шматлікіх эміграцыйных выданьнях, замежныя дасьледваньні, пераклады, рэдкія творы і рукапісы паэта, у тым ліку рукапісы вершаў "Антону Луцкевічу", "Доля батрачкі", "Поле", дзьве страфы верша "Водгульле", рукапіс уступу да паэмы "Сымон-музыка", частка рукапісу кнігі "Другое чытаньне для дзяцей беларусаў", рукапіс артыкулаў "Мова Лынькова па раману "На чырвоных лядах" і "Падумайце аб дзецях". Копіі гэтых рукапісаў былі перададзеныя дырэктарам бібліятэкі Аляксандрам Надсанам у фонды Дзяржаўнага літаратурна-мэмарыяльнага музэя Якуба Коласа.

У 1942 годзе ў Празе Беларускі камітэт самапомачы ў Бэрліне выдаў паэму Я.Коласа "Сымон-музыка". Гэтае выданьне даволі рэдкае, бо амаль увесь наклад быў сканфіскаваны нямецкімі ўладамі. У 1946 годзе ў Міхельсдорфе для навучэнцаў быў выдадзены лацінкай зборнік Я.Коласа "Выбраныя вершы", які таксама належыць да вельмі рэдкіх кніг.

Сярод першых беларускіх кніг, выдадзеных на эміграцыі, пераважалі школьныя падручнікі, скаўцкія выданьні, дзе былі зьмешчаныя творы Я.Коласа. Так, літаратурная чытанка "Наша краіна" (Ватэнштат, 1948) пачыналася словамі Я.Коласа: "О край родны, край прыгожы". У ёй былі таксама іншыя вершаваныя і празаічныя творы пісьменьніка.

З эміграцыйных перыядычных выданьняў у Заходняй Эўропе перадусім трэба адзначыць газэту "Бацькаўшчына" (выдавалася ў Остэргофэне, пасьля ў Мюнхене ад кастрычніка 1947 да сьнежня 1966 г.). Яе заснавальнікамі, першымі рэдактарамі і адміністратарамі былі Антон Адамовіч, Лявон Савёнак, Васіль Кендыш, Натальля Арсеньнева. Тут былі надрукаваныя такія творы Я.Коласа, як "Думкі ў дарозе" і "Няшчасная маці" (1958. № 51), "Новая зямля" (1952. № 78–79, 80–81, 82, 112), "Сымон-музыка" (1954), "У палескай глушы" (1955) ды іншыя, а таксама вялікая колькасьць артыкулаў, прысьвечаных яго творчасьці. Газэта мела месячны дадатак для дзяцей "Каласкі", дзе таксама друкаваліся вершы Я.Коласа, і сваё ўласнае выдавецтва "Бацькаўшчына". Першым выданьнем "Бацькаўшчыны" была паэма Коласа "Новая

зямля" (1952). У 1955 годзе выйшла паэма "Сымон-музыка", у 1957 годзе – "У палескай глушы" і "Беларускія казкі", куды ўвайшлі тры казкі Коласа – "Страшнае спатканьне", "Як птушкі дуб ратавалі" і "Страказа".

Матэрыялы, прысьвечаныя Я.Коласу, друкаваліся ў газэтах "Раніца", "Беларускае слова", часопісах "Божым шляхам" (Парыж, Лёндан; 1947–1980), "Źnič" (Рым, 1948–1954), "Барацьба" (Штутгарт, 1955–1990), "Аб'яднаньне" (Лёндан, 1955–1966), "Моладзь" (Парыж, 1948–1954) ды іншых эміграцыйных выданьнях Заходняй Эўропы.

У 1950 годзе ў ЗША пачала выходзіць газэта "Беларус", якую з поўным правам можна назваць, як адзначаў В.Кіпель, «вартым прадаўжальнікам такіх рухавікоў беларускага адраджэньня, як газэты "Наша ніва" і "Вольная Беларусь". Сярод яе рэдактараў – вядомыя дзеячы беларускай эміграцыі – Лявон Галяк, Лявон Савёнак, Натальля Арсеньнева, Міхась Міцкевіч, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Янка Запруднік, Зора Кіпель. "Беларус" надрукаваў нямала артыкулаў, прысьвечаных жыцьцю і творчасьці Я.Коласа, асьвятленьню юбілеяў Я.Коласа і Я.Купалы.

Сярод часопісаў трэба адзначыць "Беларускі сьвет" (Мічыган), які выдаваў Мікола Прускі. Там былі надрукаваныя вершы Коласа, другая кніга трылёгіі "У глыбі Палесься" (1977–1978), а таксама кароткі ўспамін "Якуб Колас" М.Міцкевіча (1991. № 22).

Найбольш грунтоўна творчасьць Якуба Коласа разглядалася ў дасьледваньнях А.Адамовіча, сярод якіх варта адзначыць наступныя працы:

(1) Уступны аналітычны артыкул да кнігі Я.Коласа «Новая зямля». Мюнхен: Бацькаўшчына, 1952. (2) Новая зямля Якуба Коласа // Бацькаўшчына. 1952. № 42–48. (3) Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхен: Інстытут па вывучэньні гісторыі і культуры СССР, 1955. (4) Да творчай гісторыі "Сымона-музыкі" // Бацькаўшчына. 1955. № 4–5, 6. (5) Уступны артыкул "Да творчай гісторыі "Сымона-музыкі" у эміграцыйным выданьні кнігі". Мюнхен, 1955.

Апошнія два артыкулы маюць аднолькавыя назовы, але крыху адрозьніваюцца адзін ад аднаго.

Вялікую колькасьць артыкулаў прысьвяціў Я.Коласу С.Станкевіч (найбольш грунтоўны: Якуб Колас // Беларускі зборнік. Мюнхен, 1956. № 6).

Аналіз эміграцыйных матэрыялаў дае магчымасьць паглядзець на творчасьць Я.Коласа з новых пазыцый. Так, вядомы дзяяч эміграцыі Уладзімір Глыбінны адзначаў (Беларус. 1982. № 299), што «застаюцца ўсё ж неасьветленымі шмат якія бакі жыцьця і дзейнасьці народных паэтаў. Больш за тое, безьліч фактаў зь іхнага жыцьця сьвядома замоўчваецца або зыначваецца гэтак, каб не пашкодзіць афіцыйнаму партрэту Купалы й Коласа як прыхільнікаў савецкага ўраду й партыі. У вольным жа сьвеце апынулася колькі людзей, якія пры тых ці іншых нагодах мелі дачыненьні з Купалам і Коласам ды могуць расказаць факты, што праліваюць сьвятло на запраўднае аблічча песьняроў Беларусі». Лістападаўскаму працэсу, які амаль не асьвятляўся ў беларускім пасьляваенным друку, прысьвечаныя ўспаміны Аляксандры Саковіч (Бацькаўшчына. 1956. № 29–30). Вельмі цікавыя успаміны Яўхіма Кіпеля ("Якуб Колас і беларускае маладое пакаленьне"), Масея Сяднёва ("Юбілейныя сустрэчы"), Аўгена Калубовіча ("Я.Колас і Я.Купала"). А.Калубовіч – укладальнік і рэдактар кнігі "Янка Купала й Якуб Колас: Вянок успамінаў пра іх", выдадзенай ў ЗША да 100-годдзя з дня нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Творчасьцю Коласа цікавіліся ня толькі беларускія навукоўцы. Агляду твораў Я.Коласа і яго ролі ў беларускай літаратуры прысьвечаныя працы Арнольда Макміліна (Англія), Джузэпэ Мэсіна (Італія), Фэрдынанда Нойрайтэра (Аўстрыя), Норбэрта Рандава (Нямеччына).

Сярод тых, хто актыўна дасьледуе і папулярызуе беларускую культуру ў замежжы, А. Макміліну – прафэсару, брытанскаму славісту, належыць адно з першых месцаў. Ён аўтар цікавых водгукаў і рэцэнзій, зьмястоўных артыкулаў і грунтоўных аглядаў, манаграфічных дасьледваньняў. На пачатку 70-х гадоў праявіў значную цікавасьць да беларускае культуры, абараніў дысэртацыю "Лексыка беларускай літаратурнай мовы XIX ст.". Але, безумоўна, самы важкі яго ўклад у знаёмства зь беларускай культурай на Захадзе – працы, прысьвечаныя беларускай літаратуры. Найбольш поўна

ягоны талент як вучонага раскрыўся ў ангельскамоўным манаграфічным дасьледваньні "Гісторыя беларускай літаратуры ад яе вытокаў да сёньняшніх дзён", якое зьяўляецца першай грунтоўнай працай пра беларускую літаратуру ў Заходняй Эўропе. Адным з улюбёных беларускіх пісьменьнікаў А.Макміліна стаў Я.Колас. Шмат працаў вучонага прысьвечана дасьледваньню творчасьці песьняра. У іх можна знайсьці аналіз вершаў ("Доля батрачкі", "На шляхах волі", "Асадзі назад", "Беларусам" ды інш.), уступу да паэмы "Сымон-музыка", аповесьці "Дрыгва", паэмы "Новая зямля", трылёгіі "На ростанях", "Казак жыцьця". У часопісе "The Journal of Byelorussian Studies" апублікавана праца Макміліна, прысьвечаная рукапісам Коласа і Купалы, якія знаходзяцца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф.Скарыны ў Лёндане. У 1978 годзе ў працы "Tradition and Innovation in the Poetry of Bahdanovich" Макмілін параўнаў некаторыя вершы Багдановіча з творамі Коласа і Купалы, а ў артыкуле ў "Academic International Press" адзначыў ролю Коласа і Купалы ў беларускай літаратуры.

У 2001 годзе "Беларускі кнігазбор" (Менск) выдаў дасьледваньне А.Макміліна ў перакладзе А.Літвіноўскай на беларускую мову "Беларуская літаратура ў 50–60-х гадох XX стагодзьдзя", прысьвечанае творчасьці такіх беларускіх пісьменьнікаў, як Мележ, Быкаў, Караткевіч ды інш. Дзякуючы яго дасьледваньням і артыкулам, беларуская літаратура стала вядомая не толькі ў Вялікай Брытаніі, але і ў іншых краінах сьвету.

Ф.Нойрайтэр, вядомы аўстрыйскі вучоны, выдаў "Беларускую анталёгію" (1983). У ёй разглядаецца творчасьць Я.Коласа, падаюцца пераклады некаторых твораў паэта на нямецкую мову, зробленыя самім Нойрайтэрам. Сярод іх – вершы "Водгульле", "Выстагнаўся", "Звон шыбаў", "Зіма", "Наш родны край", "Не бядуй". Нойрайтэр упершыню пазнаёміў нямецкага чытача з гісторыяй беларускай літаратуры, якой прысьвечаны невялікі нарыс у пачатку анталёгіі.

Творчасьць і асоба Я.Коласа разглядаецца і ў зборніку Веры Рыч "Like Water, Like Fire" ("Як вада, як агонь"). Яна пераклала на ангельскую мову наступныя творы: "Адлёт жураваоў", "Асадзі назад", "Водгульле", "Вясна", "Да працы", "Мужык", "Наш родны край",

"Не бядуй", "Родныя вобразы", "Тры жаданьні", урыўкі зь паэмаў "Новая зямля", "Сымон-музыка" ды інш. Ейныя пераклады цікавыя яшчэ і тым, што яна сама паэтка. У прадмове да зборніка перакладніца адзначае, што яе мэта – "захаваць форму арыгіналу, дадаючы і трацячы як мага меней".

Газэта "Наша слова" (1993. 28 ліп.; 1996. 24 крас.) пісала, што найбольш захапіла Веру Рыч паэма Я.Коласа "Новая зямля", якую яна параўноўвала з старажытнарымскімі трагедыямі, з драмамі і трагедыямі Ўільяма Шэксьпіра. Ужо некалькі гадоў В.Рыч займаецца перакладам паэмы. "Без такіх твораў, як "Новая зямля", – адзначала паэтка, – сусьветная літаратура была б значна бяднейшая. І калі б, напрыклад, набліжалася сусьветная катастрофа і трэба было ўзяць творы ўнікальныя, то я б узяла і "Новую зямлю" Якуба Коласа". Спадзяемся, што ангельскі пераклад гэтага выдатнага твора неўзабаве пабачыць сьвет.

# РАСЕЙСКАЯ САВЕЦКАЯ РЭЧАІСНАСЬЦЬ ВА ЎСПАМІНАХ АЙЦА ЯЗЭПА ГЭРМАНОВІЧА ”КІТАЙ–СІБІР–МАСКВА”

***Аляксандар Баршчэўскі***

Аб’ектыўная карціна расейскай рэчаіснасьці ў беларускай пісьменстве ўсё яшчэ застаецца белай старонкай у нашым літаратуразнаўстве, калі не гаварыць пра нявольніцкае захапленьне Савецкім Саюзам з боку гісторыкаў беларускае літаратуры й крытыкаў у часе панаваньня сацыялістычнага рэалізму. Аднак нельга казаць пра поўную адсутнасьць тэмы расейскай рэчаіснасьці ў аб’ектыўным беларускім літаратуразнаўстве, бо такому погляду пярэчылі б працы шмат якіх эміграцыйных пісьменьнікаў і дасьледнікаў.

Сёньня зоймемся выключна карцінай расейскай рэчаіснасьці ў мэмуарах айца Язэпа Гэрмановіча “Кітай–Сібір–Масква”[1] – дасканалага аб’ектыўнага дакумэнту, які ўсё яшчэ чакае глыбокага і ўсебаковага вывучэньня гісторыкамі беларускай літаратуры.

На пачатку варта адзначыць, што ў творы айца Я.Гэрмановіча пададзена вельмі сьціплая характарыстыка царскае Расеі й вельмі паглыблены ды шырокі аналіз Расеі бальшавіцкай. Ужо ў *Прадмове* да свайго твора айцец Я.Гэрмановіч гаворыць пра тое, што пры канцы XIX стагодзьдзя царскі ўрад пачаў будаваць чыгунку праз Манджурыю, „каб скараціць сабе дарогу паміж Уладзівастокам і Вялікім Акіянам”. Апрача гэтага, Расея праклала дарогу ад Харбіну на поўдзень праз Мукдэн да Жоўтага мора. Айцец Я.Гэрмановіч падкрэсьлівае, што гаспадарчая экспансія царскай Расеі ў кітайскім накірунку выклікала даволі вялікі наплыў у Манджурыю расейскага разнашэрснага элемэнту, які стараўся рэалізаваць на

[1] Гэрмановіч Язэп. Кітай–Сібір–Масква. Мюнхэн, 1962. 294 с. (Далей усе спасылкі на кнігу Я.Гэрмановіча падаюцца ў дужках у самым тэксьце. – *Заўв. рэд.*)

кітайскай зямлі свае эгаістычныя мэты. Гаворачы пра гэтыя абставіны, айцец Я.Гэрмановіч піша:

"Да будовы чыгункі прыбывала сюды з Расеі нямала тэхнікаў, спэцыялістых, камэрсантаў і так проста ахвотнікаў лёгкай нажывы і прайдзісьветаў. Усяго эмігрантаў лучна з тымі, што ўцяклі пасьля разгрому белых генэралаў (Калчака, Сямёнава, Меркулавых), сабралася ў Манджурыі больш за 300 тысяч: расейцаў, забайкальскіх казакаў, украінцаў, палякаў, жыдоў і немцаў. Менш было летувісаў, беларусаў, латышоў, чэхаў, эстонцаў і др. Каталікі мелі ў Харбіне тры касьцёлы: адзін для кітайцаў у кітайскай часьці і два для эмігрантаў каталікаў – касьцёл сьв. Станіслава і сьв. Ёзэфата. Мелі таксама свае цэрквы армяне, стараверы, папоўцы, эвангелікі і інш. Жыды мелі дзьве вялікія багатыя сынагогі" (с.8).

Апрача гаспадарча-палітычнай расейскай эміграцыі ў Кітаі айцец Я.Гэрмановіч характарызуе таксама расейскую праваслаўную царкоўную экспансію, захоўваючы пры гэтым характэрную для сябе далікатнасьць, талерантнасьць і памяркоўнасьць. Прыкладам можа быць ніжэй пададзеная цытата зь ягонага твора:

"Праваслаўная эміграцыя збудавала ў Харбіне да 30-ці цэркваў: некаторыя былі вялікія, прыгожыя і вельмі багатыя. Таксама і ў другіх гарадох, як Хайлар, Мулін і ў групе пасёлкаў Трохрэчча, будаваліся цэрквы і школы. Сам Харбін стаў галавою і мітраполіяй праваслаўнай Царквы ў Кітаі. Мітрапаліт Мелецій меў двух япіскапаў вікарых, Дзімітрыя і Ювэналія. Пасьля расейскай рэвалюцыі пражываў у Харбіне Камчацкі япіскап Нэстар (Анісімов). Яшчэ значны лік праваслаўных эмігрантаў сабраўся ў Шангаі (Япіскап Іоан), у Тянзіне, у Цінгтао, і Пэкіне (Яп. Віктар). У гарадох ды асабліва на правінцыі эмігранты жылі старым парадкам і прывычкамі, якія існавалі да рэвалюцыі. Наагул, хто быў чалавекам кідлівым і не лайдачыў, мог жыць у Манджурыі ў дастатку і бясьпечна. Зь кітайцамі, хоць у іх парадак моцна кульгаў, можна было жыць і ладзіць.

Праваслаўныя ўкраінцы мелі ў Харбіне прыгожую царкву ў сваім стылю на Вялікім Праспэкце.

Але вось у 1931 годзе неспадзеўкі загарнулі Манджурыю японцы і патрохі пачалі мацавацца і згушчацца. Цяпер варункі жыцьця

пагоршыліся. Канкураваць зь японцамі, якія самі гандлявалі без падатку, стала немагчыма. І наагул выяўлялася няпэўная прышласьць і найбольш пагроза канфлікту з Саветамі. Дзеля таго белыя людзі сьпешна эміґравалі далей: у глыбейшы Кітай, пераважна на Шангай і яшчэ далей – на Філіпіны, у Амэрыку, Аўстралію...” (с.8).

У далейшых сваіх разважаньнях айцец Я.Гэрмановіч заняўся новым этапам расейскай экспансіі ў Кітаі, які распачаўся ў 1945 годзе пасьля пераможных баёў саветаў зь японцамі. Этап гэты вельмі характэрны з тае прычыны, што Савецкі Саюз, пераможна скончыўшы вайну зь Японіяй і падпарадкаваўшы сабе вялікі абшар кітайскіх земляў, адчуў сябе на гэтай тэрыторыі ня толькі палітычным і эканамічным уладальнікам, але і ўладаром у рэлігійных справах. Характарызуючы гэтае пытаньне, айцец Я.Гэрмановіч піша:

“У жніўні 1945, пасьля кароткіх баёў зь японцамі заўладаў Манджурыяй Савецкі Саюз. Харбін японцы аддалі бяз бою. Усіх цяпер зацікавіла, як уладзіцца царкоўнае жыцьцё? Дасюль праваслаўнае духавенства, адарваўшыся ад Маскоўскага Патрыярха, перайшло пад юрысдыкцыю царкоўнага Заграмічнага Сабору ў Югаславіі (Карлаўцы). І вось разам з савецкай акупацыяй прыбыла ў Харбін з Масквы духоўная дэлегацыя ад Маскоўскага Патрыярха, якая без супраціву прыняла ўсю Кітайскую Мітраполію ў патрыяршае паслушэнства. Прытым дэлегацыя адсунула Мітрапаліта Мелеція, а вікарых забралі ў Сав. Саюз. Мітрапалітам у Манджурыі паставіла япіскапа Нэстара (Анісімава). Яму далі новага вікарага, Нікандра (Віктарава).

Усе ў Харбіне дзівіліся, што Нэстар, які дасюль быў патронам манархістых, цяпер так хутка здабыў давер Патрыярха і савецкага ўраду. Праўда, Нэстар чалавек актыўны, тварыскі і добры прамоўца, умеў дапасавацца да новых абставінаў. Тымчасам стары Мелецій хутка памёр, як-бы не хацеў свайму наступніку перашкаджаць у ягонай службе. І вось усім здавалася, што Нэстар умацаваўся надоўга. Так прайшло каля трох гадоў. Але пастпова царкоўнае жыцьцё цярпела паважныя страты: у эміґранцкіх школах забаранілі Закон Божы і зьнялі іконы. А кітайскі натоўп нішчыў

праваслаўны могільнік: рабаваў дрэвы, крыжы, агарожы і помнікі. Такжа і іншыя могільнікі цярпелі крыўду. Мітрапаліту Нэстару хрысьціяне закідвалі, што, маючы ўплывы, недастаткова бараніў сьвятое месца. Аж нарэшце, хоць і пазнавата, Нэстар стаў у абароне могільнікаў і здолеў затрымаць далейшае зьнішчэньне, легалізаваў стражу і паправіў агарожу праваслаўнага могільніку.

Ужо тры гады трывала кітайская камуністычная ўлада ў Манджурыі і здавалася, што арышты і высылкі ў Савецкі Саюз кончыліся. Але важнейшае было наперадзе. Вясной 1948 Нэстар атрымаў загад ад Маскоўскага Патрыярха прыехаць у Маскву на зьезд заграмічнага япіскапату. Гаварыў аб гэтым і цікавіўся ўвесь Харбін. Казалі, што мітрап. Нэстар прыгатаваў падаркі ў кітайскім стылю Патрыярху і Сталіну (гэтаму портцыгар з дарагімі каменьнямі). І вось Нэстар адслужыў малебен, сказаў гарачую пропаведзь і разьвітаўся з народам. Але за тры дні да выезду ўночы напала на яго кітайская камуністычная міліцыя, арыштавала і пасадзіла ў Харбіне ў турму. Забралі зь ім сакратара, сьвятара Герасімава. Трымалі іх паўтара месяца ў вельмі цяжкіх варунках і спачатку нікога да іх не пускалі. Нарэшце міліцыя вывезла Мітрапаліта на савецкую граніцу і выдала савецкаму ўраду. У Сібіры пасадзілі Нэстара ў турму ў горадзе Чыта. У той самай турме аказаліся і мы пасьля шасьці месяцаў.

Расказывалі мне ў лягерах, што Нэстар атрымаў 25 гадоў, якія адбываў перш у Сібіры, а пасьля ў даўнейшым Суздальскім манастыры. Апінія вязьняў аб Нэстары была самая найлепшая, як аб паважным духоўніку і сымпатычным чалавеку. Аб прычыне такога гвалтоўнага арышту Мітрапаліта ніхто ў Харбіне нічога ня ведаў, тымбольш, што Патрыярх ня мог Нэстара прызначыць Мітрапалітам бяз згоды Савецкага Саюзу. Але чаму перш паднялі яго так высока, а пасьля бразнулі аб зямлю так моцна? Толькі можна сказаць, што Савецкі Саюз – гэта сьфінкс 20-га стагодзьдзя: адно думае, другое гаворыць, трэцяе робіць, а чацьвёртае рэклямуе... Дый такая ў іх нармальная тактыка: перш уцягнуць чалавека абяцанкамі, усё яму дараваць і прыгалубіць і даць даручэньне, каб пісаў заграніцу аб сваім добрым лёсе і працы, а пасьля яго зламаць і зьліквідаваць. Так зрабілі з тымі, якім пасьля Другой вайны “ро-

дзіна прасціла": атрымалі добрую работу, месца і службу, а пасьля апынуліся ў сібірскіх лягерах, бо савецкі камунізм, адкінуўшы Хрыста, прыняў праграму Маркса і Леніна, але ў практыцы трымаецца толькі тэорыі Макіявэльлі!" (с.9–10).

Ужо ў першым разьдзеле кнігі пад назовам *Перад Калядамі* выступаюць стылістычныя й аналітычныя асаблівасьці празаічнага майстэрства аўтара. Характарызуючы савецкую лягерную сыстэму, ён зьвяртае між іншага ўвагу на бальшавіцкую шпіёнаманію, якая агортвала ўсе сфэры падсавецкага жыцьця. Айцец Я.Гэрмановіч называе савецкую сьледчую сыстэму інквізыцыяй і паказвае, што ў СССР панавала вельмі простая лёгіка, якая зводзілася да таго, што невінаватых людзей увогуле няма, і што кожны грамадзянін трактаваўся сьледчымі органамі як патэнцыйны злачынца, здраднік і шпіён, і ў сувязі з гэтым галоўнае заданьне савецкае сыстэмы палягала ў тым, каб грамадзяніну памагчы прызнацца ва ўдзеле ў злачынстве ды з пакорай і ўдзячнасьцю прыняць прысуд найбольш дэмакратычнага й справядлівага ў сьвеце савецкага суду.

У падразьдзеле *Як нас прадавалі* айцец Я.Гэрмановіч апісвае паўголых і галодных вязьняў, перададзеных кітайскімі ўладамі ўладам савецкім. Вось ягоная характарыстыка гэтых абставінаў:

"Людзі поўныя крыві, сытасьці і сілы, апраненыя ў парадныя вайсковыя ўніформы, паглядалі на нас аслабленых, худых і недалужных, у беднай, забруджанай падчас падарожжа вопратцы. Мы пачувалі перад сабою не закон і права, але гвалт і несправядлівасьць. А яны не хацелі ведаць, што і над імі ёсьць большая Сіла – Усемагутны Судзьдзя. І дзіўна, што яны раптам па-свойму зьлітаваліся над намі. Старшыня дэлегацыі сказаў:

– Ну, можа і досыць гэтых цацак для сьвятых айцоў? – Афіцэры маўчалі. Старшыня пераможна паглядзеў на іх і на нас і загадаў:

– Здымайце зь іх!

З нас зьнялі кайданкі і больш ужо не накладалі.

Пачалі з намі гутарку ажыўленую і бязладную. Але зараз мы пачалі ўпірацца ў іхную лінію – у догмы камунізму.

– Што мае супольнага вашая праграма зь незалежнаю праўдаю? – пыталіся нашы айцы. – Праўда сама ў сабе ёсьць нэўтральная.

Дый куды там? У іх камунізм стаўся рэлігіяй: Маркс – новы мэ-

сія, а Энгельс, Ленін і Сталін – ягоныя апосталы; партыя заступае Царкву; а іхняя вера ў камунізм ставіць большыя і цяжэйшыя вымогі, як наша вера ў Бога. Чуць хто адхіліцца ад лініі, будзе трагічна «вычышчаны» у камуністычным «пекле»". (с.36.)

Бадай што найчасьцей айцец Я.Гэрмановіч характарызуе савецкую сыстэму праз прызму турмаў і лягераў. У ягонай кнізе знаходзім дасканалыя характарыстыкі тых варункаў, у якіх давялося жыць яму і ягоным таварышам па няшчасьці. Паслухайма яшчэ раз айца Язэпа Гэрмановіча:

"Цяпер маё астрожнае жыцьцё пацякло, як кажуць па-турэмнаму, нармальна. Увесь дзень быў мой; я мог рабіць у камэры што хацеў, але кожныя пяць-дзесяць мінут на мяне цікавалі праз ваўчок.

Калі хто ламаў устаноўлены парадак, яго лаялі або ставілі ў кут, або садзілі ў карцар да поўнае нормы, значыць, да васьмі днёў. Уставаць і класьціся трэба было на загад. Хоць пазвалялася сядзець на ложку, але нельга было ані апірацца на падушку, ні на поручні ложка, ні да сьцяны. У асочнай турме днём востра забаронена класьціся на ложках, спаць, а нават драмаць. Здавалася-б, што сядзець – лёгкая справа, але сядзець посядам цэлымі днямі, зусім ня так лёгка, як здаецца! Затое вязень, як выйдзе на волю, мае права сказаць:

– Я адсядзеў пяць (а іншы – дзесяць ці дваццаць пяць гадоў).

Як толькі вязень, седзячы на ложку, пачне драмаць, зараз з калідору наглядчык крычыць і пагражае. Такая зьвяга горш дражніць, як пабоі. Хоць ён крычыць на аднаго, але псуе нэрвы ўсяму калідору. Уночы нельга адвярнуцца да сьцяны і нельга нічым закрываць вачэй. У адзіночцы я мусіў ляжаць на сьпіне, нагамі да дзьвярэй, каб наглядчык мог бачыць праз ваўчка мае вочы. Лямпа сьвяціла моцна ўсю ноч і хоць я як стараўся моцна заплюшчыць вочы, сьвет мяне непакоіў і сон перарываўся. Такім чынам давялі мяне да поўнае нэрвовае хваробы; спаў ня больш як паўтары–дзьве гадзіны ў пару. Каб не малітва, дык я пэўна зьвіхнуўся-б зусім. У тыя цяжкія хвіліны мне найлепш памагаў ружанец. Кароткая развага ружанцовых Тайніцаў і паўтараныя малітвы да Найсьвяцейшае Дзевы супакойвалі мае хворыя нэрвы. Дзеля таго, што кітайцы падчас рэвізіі забралі мой ружанец, я маліўся з памяці паводле натхненьня.

У турме тройчы давалі есьці. Поўнага голаду не было. Хлеб даваўся рана на цэлы дзень: чорны, цяжкі (у ім шмат вады), жытні з дамешкай аўса, кукурузы і яшчэ чагосьці. Зупа – крупнік ледзь аскаромлены – аўсяны або ячны; часам бываў грэчневы, прасяны, або зь непрацёртае пшаніцы. На другое: каша з таго самага матар'ялу, але гусьцейшая. Часам траплялася капуста – рэдкая, цёмная і гідкая. Авёс зь ячменем чаргаваліся цэлымі тыднямі, дык ня дзіва, што яны прыядаліся і аслаблялі людзей. Цукру ў турме давалі 9 грамаў на цэлы дзень; адны саладзілі ім кубак гарбаты, іншыя высыпалі ў кашу, а другія адразу з далоні высыпалі ў рот. У мяне ў адзіночцы прапала 12 дзён цукру, бо я яшчэ ня меў практыкі, як трэба дамагацца. Часам раніцаю давалі 20 грамаў селядца. Калі ў гэтым была селядцовая галава, дык тады зусім не было чым цешыцца. Але і тут я быў неспрактыкаваны. Потым у групе зь японцамі я наладзіўся есьці селядца без астаткаў – з галавою, з касьцямі, са скураю і з хвастом! Тады ўжо мы пайшлі зусім у такт з навукаю Леніна, які казаў: «У вялікай гаспадарцы ўсякая дрэнь прыдаецца».” (с.40–41).

Характарызуючы савецкую турэмную й лягерную сыстэму, айцец Я.Гэрмановіч глядзеў на яе ня толькі праз прызму ўласнага лёсу, але даволі часта задумваўся пра грандыёзныя памеры перасьледу ў Савецкім Саюзе ды пра тое, колькі людзей у гэтай краіне знаходзілася ў зьняволеньні. Разглядаючы гэтае пытаньне, айцец Я.Гэрмановіч піша:

“Я выпытваў шмат людзей, якія добра ведалі савецкае жыцьцё, і з розных сфэраў: колькі ў Савецкім Саюзе сядзіць людзей? І вось агульнае перакананьне было такое, што да сьмерці Сталіна ўсіх замкнёных у турмах і лягерах і на прымусовых работах было ня менш трыццаці мільёнаў!

А сабакі? Пры лягерах былі спэцыяльныя зоны для сабак. Сабакі былі асаблівай расы – вялікія і вымуштраваныя, каб паляваць на людзей. Гора таму вязьню, які трапляў ім у зубы! Аднак былі такія ўцекачы-спрыцюгі, што зацiралі свой сьлед табакай ці перцам. Колькасьць і якасьць сабачае ежы ў калёрыях перавышала людзкую, дзеля гэтага ніхто ня мог называць нашага жыцьця “сабачым”. Я бываў у лягеры на рабоце ў сабачай зоне і там падар-

ваўся, перакідаючы сьнег праз высокі плот, так што ледзь пасьля ў шпіталі адлячыўся.

Для ілюстрацыі падам ходкі расказ з Польшчы з 1955 году. Адзін савецкі дзеяч у гутарцы з польскімі ўрадоўцамі, падпіўшы, калі палякі пачалі хваліцца, спытаўся ў іх безь ніякіх хітрыкаў:

– А колькі ў вашай Польшчы насельніцтва?

– Мільёнаў 28 будзе.

Тут бальшавік пратэкцыйна ўсьміхнуўся і кажа:

– І вы гэта называеце дзяржаваю?

– Або што, чаму?

– Дык у нас больш у лягерах сядзіць!” (с. 47–48).

Галоўнымі постацямі, сябрамі па нядолі, былі найчасьцей у айца Я.Гэрмановіча рэлігійныя дзеячы, хоць траплялiся яму вельмі часта людзі розных прафэсіяў і розных нацыянальнасьцяў. Нямала было сярод іх кітайцаў, японцаў, французаў, туркаў, летувісаў, эстонцаў і латышоў. Траплялiся таксама час ад часу савецкія ваенныя або звычайныя калгасьнікі. Здавалася б, айцец Я.Гэрмановіч, які амаль усё жыцьцё правёў у асяродзьдзі духоўных, слаба разьбіраецца ў тэматыцы сялянскага жыцьця. Аднак многія фрагмэнты ягоных успамінаў сьведчаць пра тое, што і ў гэтай галіне меў ён дастаткова ведаў. Прыкладам можа быць наступная характарыстыка калгасьніка:

“У нашай камэры быў так-жа некаторы час успомнены перш калгасьнік, Захар Казлоў з надрэчча Шылкі. Ён быў чалавекам прыткім і здольным ды рупным гаспадаром. Выхвальваў калгасны лад, а за калгаснае дабро стаяў лепш, як за сваё. Казлоў аж гарэў да гаспадарскае работы!

– Дык за што-ж сядзіш, калі ты такі калгасны “патрыёт”?

– Вінаваты ўсяму старшыня калгасу, – адказвае Казлоў, – ён бачыў, што я ведаю ягоныя грахі і далей не пацярплю, дык пасьпяшаўся засадзіць мяне. Паставіў у сьветкі дзьве бабы, якія са страху перад ім (бо таксама мелі нячыстыя рукі), прысягнулі, што я бунтаваў іх выйсьці з калгасу. Суд даў мне сем гадоў. Самі вы бачыце, што нізашто. – Казлоў аж заходзіўся ад свае крыўды; ня мог спакойна гаварыць.

У калгасе доля кажнага калгасьніка залежыць ад старшыні; ён

можа лёгка падлавіць кожнага, бо жыцьцё ў калгасах немагчыма цяжкое, а старшыню падлавіць небясьпечна. У Казлова ўжо было другое перасьледзтва, але ён меў расстроеныя нэрвы, на судзе гарачыўся і блытаўся. Ён ня мог спакойна гаварыць аб хабарніцтве й круцельстве свайго старшыні і гарэў гарачым жаданьнем помсьціцца, дык суд лёгка прызнаваў віну самога Казлова і ўжо другі раз засудзілі яго на сем гадоў" (с.77).

Нельга не заўважыць, што ні жорсткасьць савецкай сыстэмы, ні жахлівыя сьледзтвы, ні страшэнныя лягерныя ўмовы не забілі ў айцу Я.Гэрмановічу ягонай эмацыйнасьці і ўражлівасьці. Аб іх найлепш сьведчаць апісаньні Гэрмановічам сібірскае прыроды. Асабліва моцна захапляўся ён навакольлем славутага сібірскага мора Байкала. Вось яго характарыстыка гэтых мясьцінаў:

"З Чыты ехалі мы праз горы Яблынавага хрыбта. Далей ішла самая цікавая і прыгожая дарога – Кругабайкальская. Там чыгунка абходзіць возера Байкал з паўднёвага боку. Праз вакно можна бачыць, як красуецца праз многа гадзін гэты слаўны, як тут кажуць "сьвяты Байкал": ён далёка ўнізе, аж страшна глядзець! Пакуль мы ехалі да змроку, налічылі 53 тунэляў. Часам дарога ўецца і зьвешваецца над скаламі, або раптам Байкал нікне з вачэй на мінут дзесяць-пятнаццаць, і мы, як зблудзіўшы, углыбляемся ў лясы. Аж зноў вынырнем з аграмнястае пячоры і мякка коцімся па роўным прасторы ў абліччы яснага возера, якое адкрываецца на дзесяткі кілямэтраў. Цудоўныя байкальскія краявіды магчыма прыраўняць да Рыўеры, марскога берагу ўздоўж Міжземнага мора. Але самое возера цудоўнае! Яно такога памеру (60 км х 700 км), што яго называюць морам. Возера незвычайна глыбокае, да трох кілямэтраў. Вады мае больш, чым Касьпійскае мора.

...І як паглядаеш на магутны Байкал, дык прыходзіць думка, што ён ёсьць малюсенькім абразком усяе прыроды. І паўстае пытаньне: ці ўсё, што існуе, ад атому і электронаў аж да сонца і ўсяго сусьвету зь іхняю веліччу і красою – ці ўсё гэта пачалося бяз розуму і бяз пляну? І ці далей яно коціцца сваею самасілаю і самапасам? Ці ня кажа яно нам убачыць на сабе адбітак Рукі сусьветнага Гаспадара і ягонага бесканечнага Розуму?" (с.86–87).

Аднак айцец Я.Гэрмановіч – гэта перадусім чалавекалюб. Нават

у страшэнных лягерных умовах шукае ён і знаходзіць людзей, якія, нягледзячы на страшэнны тэрор, захавалі ў сабе людзкасьць. Да такіх людзей залічае ён між іншага выбітных рэлігійных дзеячоў: архімандрыта Фабіяна Абрантовіча і архімандрыта Андрэя Цікоту. Пісьменьнік паказаў іх пакутніцкі шлях і пераканаўча даказаў, што найбольш суровы сталінскі тэрор ня быў у стане зламаць гэтыя выдатныя постаці, і што, седзячы ў савецкіх лягерах, захавалі яны ў сабе высакароднасьць і дабрыню, і што праменілі гэтымі якасьцямі на ўсіх таварышоў па страшэннай нядолі.

Аб выключнай высакароднасьці айца Я.Гэрмановіча сьведчыць тое, што шляхотныя постаці знаходзіў ён ня толькі ў родным яму каталіцкім духавенстве, але таксама ў праваслаўных і пратэстанцкіх духоўных.

Гістарычная каштоўнасьць успамінаў айца Я.Гэрмановіча ў тым, што стварыў ён аўтэнтычную, праўдзівую карціну савецкай палітычнай, рэлігійнай і нацыянальнай рэчаіснасьці. Кніга айца Я.Гэрмановіча зьяўляецца пасьлядоўнай пахвалой грандыёзнасьці й велічы чалавечага духу. Веліч гэтая праявілася ў тым, што як сам айцец Я.Гэрмановіч, гэтак і верныя яго рэлігійныя пабрацімы не паддаліся сталінскаму тэрору, захавалі вернасьць беларускаму патрыятызму, не пайшлі ў няволю русыфікацыі й да канца свайго жыцьця несьлі ў сваіх сэрцах сьвяты вобраз Маці-Беларусі.

Чытаючы й аналізуючы сёньня ўспаміны айца Язэпа Гэрмановіча, мусім памятаць пра тое, што ўвайшоў ён у слаўную плеяду такіх беларускіх мэмуарыстаў, як Францішак Аляхновіч, Аўген Калубовіч, Ларыса Геніюш і Яўхім Кіпель, якія сказалі сьвету слова праўды аб злачыннай камуністычнай сыстэме.

# РОЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў ЗАХАВАНЬНІ Й РАЗЬВІЦЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ (на падставе беларускага друку ў Нямеччыне)

***Ніна Баршчэўская***

Найбольшая колькасьць беларускіх часопісаў і газэт выдавалася ў Нямеччыне, якая прыняла першую хвалю беларускай эміграцыі ваеннага й паваеннага часу.[1] Зразумела, не ва ўсіх закраналіся моўныя пытаньні, аднак трэба заўважыць, што гэтай праблематыцы адводзілася значная ўвага бальшыні згаданых выданьняў.[2]

Аўтары публікацыяў паказвалі значэньне беларускай мовы ў гісторыі ды ейнае становішча ў найноўшы час, клапаціліся пра яе чысьціню й выступалі ў ролі настаўнікаў, абавязкам якіх было адукоўваньне эмігрантаў і выхаваньне ў роднай культуры.

Рэдактары эміграцыйных часопісаў, што выдаваліся ў Нямеччыне, былі занепакоеныя **становішчам роднае мовы**. У „Беларускай праўдзе" пад агульным назовам "Беларуская мова"[3] зьмяшчаліся нататкі, дзе параўноўвалася тагачаснае становішча мовы й колішняе, калі яна была мовай грамадзка-рэлігійнага жыцьця, мовай дзяржаўнай, на якой пісалі дакумэнты, законы, стваралі летапісы, мастацкую літаратуру. Пасьля забароны яна працягвала сваё жыцьцё пад саламянай страхой. Беларускі народ складаў на ёй свае

---

[1] Вялікае багацьце эміграцыйных газэт і часопісаў захоўваецца ў Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане, да якіх я мела доступ дзякуючы ветлівасьці а. Аляксандра Надсана. Менавіта публікацыі з гэтых выданьняў, а таксама з выданьняў, якія захоўваюцца ў Славістычнай бібліятэцы ў Варшаве, сталіся падставай сёньняшняга артыкулу.

[2] Гл. Barszczewska N. Моўныя пытаньні на старонках беларускіх эміграцыйных газэтаў у Нямеччыне // Literatura emigracyjna Rosjan, Ukraińców i Białorusinów. Lublin, 2001. S.267–290.

[3] Беларуская мова // Беларуская Праўда (Віндсбэрг). 1972. № 12, кастрычнік. С.10.

песьні, казкі, паданьні, легенды. У ёй акумуляваная народная мудрасьць. Цяпер жа родная мова апынулася ў цяжкім становішчы.

"Цяпер вядзецца наступ на беларускую мову з усіх бакоў. У першую чаргу яна падмяняецца мовай акупанта – маскоўскай мовай, падмяняецца польскай, летувіскай, латыскай і ўкраінскай на тых нашых землях, якія далучыла наўзнарок Масква да суседніх рэспублік, каб гэтак расьцярушыць, аслабіць беларускі народ. А беларуская мова ўсё такі жыве! Яна выціснута з вышэйшых і сярэдніх школ, выціснута з адміністрацыі ў БССР, але яна жыве далей пад саламянай страхой.

Змаганьне за беларускую мову прадаўжаецца. Масква змушана крыху папусьціць свае крывавыя кіпцюры. Пра беларускую мову пішуць і падсавецкія моваведы, удасканальваюць яе, збагачаюць запасамі з народных гаворак, а яны без канца багатыя. (...) Каб беларуская мова мела сапраўды свабоду, мела дзяржаўнае значэньне, як калісь, дык беларуская мова стаяла-б на высокім узроўні. А так беларускую мову пакінулі маскалі толькі на завод – крыху, каб ім не закінулі, што, моў, маскалі вынішчаюць нацыянальныя мовы."[4]

Пра ўзмоцненую русыфікацыю піша таксама "Барацьба":

"Народ у краі змагаецца за сваю родную мову і ня дасьць яе зьнішчыць. Нашым абавязкам ёсьць дапамагчы свайму народу ў гэтым сьвятым змаганьні. Мы маем усе магчымасьці вывучаць, разьвіваць і ўпрыгожваць сваю мову. Шануйма яе, навучайма сваіх дзяцей кахаць, гаварыць, вывучаць сваю мову. Узгадоўваем у сэрцох сваіх дзяцей пачуцьцё вернасьці ёй, бо мова нашая – душа нашая. (…)

Захоўваючы вернасьць сваёй мове, раскрываючы маскоўскі тэрор супраць нашае мовы, мы дапаможам нашаму народу бараніць сваю мову."[5]

Цыкль артыкулаў розных аўтараў быў прысьвечаны **рэфармаваньню беларускага правапісу**.[6]

---

[4] Беларуская мова // Беларуская Праўда (Віндсбэрг). 1972. № 12, кастрычнік. С.10.

[5] Узмоцненая русыфікацыя // Барацьба (Штутгарт). 1979. № 87–88, студзень–жнівень. С.17.

[6] Гл. Баршчэўская Ніна. Эміграцыйная газэта "Бацькаўшчына" ў абароне роднае мовы // Беларусіка – Albaruthenica. № 17. С.219–228.

Станіслаў Станкевіч, пішучы пра рэформу 1933 году адзначыў, што "... уся гэтая "рэформа" мела на мэце штучнае набліжэньне нашае мовы да мовы расейскай шляхам узаконенага гвалту й ламаньня моўных асаблівасьцяў, іншымі словамі – русыфікацыю беларускае мовы."[7]

Ст.Крушыніч (С.Станкевіч) заўважае, што русыфікацыя ў галіне мовы праводзілася плянава й сыстэматычна ў двох асноўных кірунках: па-першае, у кірунку безупыннай русыфікацыі самой беларускай літаратурнай мовы і, па-другое, у кірунку сыстэматычнага выцісканьня з ужываньня гэтай зрусыфікаванай мовы й замены яе расейскай мовай. Асноўная мэта гэтага працэсу – зьліцьцё беларускай мовы з расейскай. Набліжэньне да расейшчыны афіцыйна падавалася як прагрэс у разьвіцьці беларускае мовы.

"Працэс русыфікацыі беларускае мовы, запачаткаваны ўрадавым дэкрэтам 1933 году, пасьлядоўна праводзіцца й далей. Паколькі беларусы ня могуць змагацца з гэтым гвалтам над мовай на бацькаўшчыне, патолькі сыстэматычна й наважана з гэтым павінны змагацца мы ў нашай мове собскай. Руплівасьць аб чысьціні роднае мовы й абарона перад яе засьмечваньнем чужымі ўплывамі ёсьць адным з найважнейшых нашых заданьняў, ёсьць справай ня толькі беларускай нацыянальнай культуры, але ў роўнай меры й праблемай палітычнай."[8]

Эміграцыйныя выданьні шмат увагі аддавалі гісторыі русыфікацыі беларускае мовы. Ян Станкевіч у публікацыі пад назовам "*Зь гісторыі русыфікацыі Беларусі*" [9] сьцьвярджае, што формула Пушкіна „*Славянскія ручаі выльюцца ў расейскім моры*" сталася баявым лёзунгам рэакцыйных колаў расейскага грамадзтва ў славянскім пытаньні. Згодна з шматлікімі праектамі рэфарматараў Беларусі, трэба было зьмяніць у ёй народны дух. Дзеля гэтага мелі служыць рэформы асьветы, увядзеньне расейскае мовы, цывільнае

[7] Ст.Ст. У вабароне роднае мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1952. № 25–26 (104–105), 29 чэрвеня. С.6.

[8] Ст.Ст. Куток мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1956. № 6–7 (288–289), 11 лютага. С.7.

[9] Станкевіч Ян. Зь гісторыі русыфікацыі Беларусі // Бацькаўшчына (Мюнхэн) 1960. № 3–7 (487–491), 17 студзеня – 14 лютага.

й крымінальнае расейскае судовае працэдуры, скасаваньне царкоўнае вуніі, прыцягненьне шляхам ільготаў і прывілеяў у Беларусь чыноўнікаў з расейскіх губэрняў ды, наканец, калянізацыя беларускіх губэрняў расейцамі.[10]

Рэдактары эміграцыйных беларускіх выданьняў **клапаціліся пра аднолькавы правапіс** і з гэтай мэтай, а таксама дзеля азнаямленьня сваіх чытачоў, зьмяшчалі на старонках часопісаў прапановы беларускага правапісу. Так, "Беларускае слова" выдрукавала заўвагі да напісаньня **і** ды **ў**, апрацаваныя ў свой час Антонам Лёсікам.[11] У сваю чаргу "Голас Беларуса" закранаў пытаньні паралельнага выкарыстаньня ў беларускай мове лацініцы ды кірыліцы.[12]

Вялікі **клопат пра чысьціню беларускае мовы** праяўляла "Бацькаўшчына",[13] прысьвячаючы гэтаму пытаньню сталую рубрыку *Куток мовы.* Асноўнай мэтай *Кутка мовы* было падтрыманьне й захаваньне моўнае чысьціні беларусамі, якія апынуліся на эміграцыі. Рэдактары газэты, імкнучыся да моўнае пасьлядоўнасьці, зьмяшчалі публікацыі, у якіх засяроджвалі ўвагу на тым, якія словы ці словазлучэньні найбольш характэрныя для нашае мовы, а якіх трэба пазьбягаць. Шмат месца "Бацькаўшчына" адводзіла характарыстыцы русыцызмаў і палянізмаў у беларускай мове, пісала пра ўжываньне дыялектызмаў ды іхную ролю ў мове, пра сэмантычныя адрозьненьні блізказначных словаў.

Пачынаючы з 113-га нумару, "Бацькаўшчына" пачала зьмяшчаць мовазнаўчыя артыкулы Яна Станкевіча, напісаныя пры ўдзеле Антона Адамовіча, пад назовам *Некаторыя групы словаў беларускае мовы.*[14] Аўтары публікацыяў, прыводзячы прыклады тыповых

[10] Станкевіч Ян. Зь гісторыі русыфікацыі Беларусі // Бацькаўшчына (Мюнхэн) 1960. № 3–7 (487–491), 17 студзеня – 14 лютага.

[11] Беларускае Слова (Міхельсдорф). 1954. № 19, жнівень–верасень. С.3.

[12] Гальяш. За чысьціню беларускага друку // Голас Беларуса (Менхегоф). 1949. № 2, люты. С.8–9; Гальяш. У кірыліцу – латыніцу // Голас Беларуса (Менхегоф). 1949. № 2, люты. С.9.

[13] Гл. Баршчэўская Ніна. Клопат "Бацькаўшчыны" пра чысьціню беларускае мовы // Беларусіка – Albaruthenica. № 15. С.100–109.

[14] Станкевіч Ян (пры ўчасьці Антона Адамовіча). Некаторыя групы словаў беларускае мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1952. № 34 (113), 24 жніўня. С.3–4; № 35 (114), 31 жніўня. С.3–4; № 36–37 (115–116), 7–14 верасьня. С.7–8; № 38 (117), 21 верасьня. С.3–4; № 39 (118), 28 верасьня. С.3–4.

для нашае мовы словаў, адначасова падаюць кантэксты іх выкарыстаньня, спасылаючыся на прысутнасьць іх у народнай мове ды ў гістарычных дакумэнтах, між іншага ў *Аль Кітабе*, а таксама параўноўваюць з эквівалентамі ў польскай і маскоўскай мовах.

Празь некалькі гадоў на старонках "Бацькаўшчыны" зьявілася чарговая цыклічная публікацыя Яна Станкевіча *Аб некаторых словах і хормах нашае мовы*.[15] Я.Станкевіч паведамляе, што ў нізцы сваіх артыкулаў на практычныя тэмы намерваецца, па-першае, адзначаць барбарызмы і заганы ў мове беларускага друку, па-другое, навукова разглядаць некаторыя ўставічныя барбарызмы й скрыўленьні, па-трэцяе, адзначаць усё добрае ў мове тых, хто піша па-беларуску і, па-чацьвертае, зьвяртаць увагу на некаторыя цікавыя, адметныя словы, не сустраканыя ў беларускім друку. Піша, што трэба папаўняць лексыку літаратурнай мовы, шукаючы патрэбных словаў у народнай мове, а чаго няма там, таго трэба глядзець у багатым жарале старое літаратурнае й народнае мовы. Калі й там няма, то трэба ствараць згодна з нормамі й духам народнае мовы.[16]

"У выніку русыфікатарскай палітыкі ў БССР насаджваецца, як ведама, у беларускую літаратурную мову цэлае мноства чужых нашай мове тыпова расейскіх асаблівасьцяў ува ўсіх галінах моўнага працэсу: у сынтаксе, марфалёгіі, словатворстве, фанэтыцы й слоўніцтве. Бальшыня з гэтых русыцызмаў, хоць і не прадугледжаных славутай "рэформай" беларускага правапісу й нарматыўнае граматыкі з 1933 году, а ўведзеная пазьней і не дэкрэтаваная ніякімі ўрадавымі пастановамі, зьяўляецца сяньня ўсанкцыянаваная, як адзіна дапушчаныя формы й словы, як "чыста беларускія", а іхныя ўзапраўды беларускія адпаведнікі старанна выціскаюцца, як шкодныя "правінцыяналізмы", "архаізмы" або "штучныя нэалягізмы"."[17]

Эміграцыйныя выданьні падкрэсьлівалі, што **веданьне роднае**

---

[15] Станкевіч Я. Аб некаторых словах і хормах нашае мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1955, № 20–38 (250–26). 15 траўня – 18 верасьня.

[16] Станкевіч Я. Аб некаторых словах і хормах нашае мовы // Бацькаўшчына. 1955. № 26 (256), 26 чэрвеня. С.3.

[17] Станкевіч Ст. Трэба ачышчаць беларускую мову ад русыцызмаў // Бацькаўшчына. 1956. № 6–7 (288–289), 11 лютага. С.7.

**мовы** прыносіць ня толькі прыемнасьць, але й карысьць; як для тых, хто, магчыма, вернецца на Бацькаўшчыну, гэтак і для тых, хто назаўсёды застанецца ў эміграцыі, бо родная мова будзе ня толькі доказам іх духовае й нацыянальнае сілы, але й будзе выконваць функцыі мовы сямейнай і адначасова мовы замежнай. “Беларусь не заўсёды будзе калёніяй і забароненай зонай у межах расейскай імпэрыі, але вольнаю краінаю.”[18] Тады прадстаўнікі беларускай эміграцыі, ведаючы сваю родную мову, здолеюць заняць адказныя пасады ў дыпляматыі, а таксама ў галінах культурнай, гаспадарча-гандлёвай і турыстычнай лучнасьці.

“Беларусы павінны быць гордыя, таму што зьяўляюцца нашчадкамі Рагнеды, Скарыны, Сапегі, Каліноўскага і іншых, дух якіх да сёньняшняга дня жыве ў Беларускім Народзе.”[19]

Эміграцыйныя публіцысты, разумеючы, якую важную ролю выконвае адукацыя ў роднай мове, **нямала ўвагі прысьвячалі школьнай сыстэме**.

На моўны аспэкт апрацоўкі падручнікаў зьвярнуў увагу аўтар, падпісаны ініцыялямі Я.З.[20] Адзначыў ён той факт, што ў свабодным сьвеце мовазнаўства заўсёды адмежаванае ад палітыкі ці прапаганды.

“Да гэтага часу ў цывілізаваным сьвеце заўсёды было так, што калі складаўся падручнік якое-небудзь мовы, дык усе граматычныя правілы ілюстраваліся прыкладамі, узятымі з нацыянальнае літаратурнае скарбніцы. Пры гэтым найчасьцей выбіраюцца найвыдатнейшыя пісьменьнікі, якія для моваведаў зьяўляюцца найбольшым аўтарытэтам у галіне літаратурнае мовы. Так, прыкладам, ангельскія літаратары ілюструюць ангельскую граматыку, францускія – францускую, нямецкія – нямецкую і г.д.”[21]

Тым часам у Беларусі ўсё па-другому. І тут аўтар спасылаецца на «Падручнік беларускае мовы для пэдагагічных вучылішч і дапа-

---

[18] Папко Ю. Бацькі, вучэце роднае мовы // Барацьба (Штутгарт). 1958. № 27. С.19.

[19] Тамсама.

[20] Я.З. Аб савецкіх падручніках беларускае мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1956. № 23 (305), 3 чэрвеня. С.1.

[21] Тамсама.

можнік для пэдагагічных інстытутаў», выдадзены міністэрствам асьветы БССР у 1955 годзе. Ягоная своеасаблівасьць праяўляецца ў падборцы цытатаў. У падручніку ўжываньне часьціцы *ні* ў беларускай мове падмацоўваецца аўтарытэтам Крылова й Гогаля. У справе злучнікаў экспэртам стаўся сам Уладзімір Ільіч. Як карыстацца дзеепрыслоўямі ў беларускай мове, навучае Горкі. Да дзеясловаў аўтары падручніка змабілізавалі нябожчыка Някрасава й г.д., аж да краю бязглузьдзя[22], – падкрэсьлівае аўтар "Бацькаўшчыны" ды пытаецца:

"Няўжо беларуская мова такая нязграбная, што разабрацца ў ёй павінны дапамагаць расейскія пісьменьнікі? Няўжо не хапае беларускіх пісьменьнікаў, якія зьяўляюцца адзіным аўтарытэтам у пытаньні беларускае літаратурнае мовы? Гэта прыклад дэнацыяналізацыйнае акцыі ў Беларусі, дзе нічога ня можа абыйсьціся бязь ідалапаклонства перад вялікім старэйшым братам."[23]

Выкладаньне беларускай мовы ў школах БССР выклікала трывогу ў выкладчыкаў. Справа датычыць ня толькі якасьці выкладаньня, але перадусім адсутнасьці добрых, навукова апрацаваных падручнікаў. Аўтар публікацыі "*Аб падручніках і дапаможніках беларускай мовы*" адзначае, што "адзінай мэтай партыі й савецкага мовазнаўства зьяўляецца гэтак званае "набліжэньне" беларускай мовы да мовы расейскай з мэтай поўнай бальшавізацыі й зьліквідаваньня ў камуністычнай будучыні ў пляне стварэньня гэтак званага "савецкага чалавека" з адзінай мовай."[24]

Дзеля замены беларускай мовы мовай расейскай былі створаныя такія спэцыфічныя ўмовы, якія робяць пераход на расейскую мову ў грамадзкім жыцьці неабходным. Перш за ўсё выкладаньне ў вышэйшых навучальных установах цалкам пераведзенае на расейскую мову, з выняткам беларусістыкі. 90 працэнтаў вучэбных дапаможнікаў, якімі павінны карыстацца студэнты на працягу 5 гадоў, таксама ў расейскай мове. Зразумела, што выпускнікі такіх школ,

[22] Я.З. Аб савецкіх падручніках беларускае мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1956. № 23 (305), 3 чэрвеня. С.1.

[23] Тамсама.

[24] С.М. Аб падручніках і дапаможніках беларускай мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1958, № 8 (394). С.4.

самы стаўшы настаўнікамі, пераходзілі на навучаньне па-расейску і ў пачатковых школах, бо яны цалкам развучыліся карыстацца беларускай мовай.[25]

Гэта, з аднаго боку, выклікана практычным чыньнікам – вучні й бацькі выбіраюць школы з расейскай мовай навучаньня, каб у будучыні не давучвацца расейскай мове, якая апанавала ўсе галіны жыцьця. З другога ж боку, свабода нацыянальнага жыцьця існуе толькі фармальна, а фунцыю дзяржаўнае мовы цалкам пераняла мова расейская.[26]

Беларуская дыяспара разумела, што, каб пазьбегнуць асыміляцыі, **трэба вывучаць родную мову**. Зьявіліся заклікі да суайчыньнікаў, якія апынуліся ў лягеры Віндышбэргердорф, не адракацца ад роднае мовы. Перад лягернай адміністрацыяй паўстала заданьне ўзнавіць беларускае нацыянальнае й культурнае жыцьцё, адчыніць беларускую школу. І пачатковая школа пачала працаваць ад 15 жніўня 1947 году.[27]

З мэтаю пашырэньня інфармацыі пра магчымасьць адукацыі моладзі ў беларускай мове "Бацькаўшчына" зьмяшчала рубрыку пра **лектарат беларусаведы.** У Таронта ўрачыстае адкрыцьцё лектарату адбылося 15 кастрычніка 1951 году.[28] Беларускія грамадзкія дзеячы, як і Ўправа Беларускіх студэнцкіх арганізацыяў рупіліся, каб павялічыць шэрагі беларускіх студэнтаў на чужыне. Цэнтраля Беларускіх акадэміцкіх арганізацыяў выбрала шлях згуртаваньня беларускае моладзі ў інтэрнат і стварэньня ёй магчымасьці здабыцьця сярэдняе асьветы ў школах на чужыне, зарганізаваўшы адначасова беларусаведу й нацыянальнае ўзгадаваньне.[29] На пачатку

[25] Крушыніч Ст. Жахлівы білянс русыфікацыі // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1958. № 7 (393), 16 лютага. С.1–2.

[26] Залужны П. Да русыфікатарскай палітыкі Масквы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1959. № 18 (454), 3 траўня. С.2.

[27] М.Л. Да роднае мовы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1947. № 2, 17 лістапада. С.4.

[28] Лектарат беларусаведы ў Торонто // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1951. № 74, 4 лістапада. С.7.

[29] А.С. Растуць рады нашай інтэлігенцыі // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1952. № 13 (92), 30 сакавіка. С.3.

лістапада 1951 году ў Лювэне зьявілася група 5 беларускіх дзяцей з Францыі. Інстытут Беларусаведы існаваў таксама ў Мадрыдзе.[30]

Беларускія эміграцыйныя публіцысты не пакідалі па-за ўвагай таксама **жыцьця беларусаў у межах польскай дзяржавы**.[31]

Вялікую ўвагу зьвярталі на адмоўную **ролю друкаванага слова ў Беларусі.** "Друкаванае слова ў Беларускай ССР ёсьць зброяй духовага паняволеньня й вынішчэньня нашага народу, адным і, магчыма, галоўным сродкам барацьбы з нацыянальна-дзяржаўнымі ідэаламі нашага народу. Варожы, сілай накінуты чужакамі нашаму народу маскоўска-бальшавіцкі рэжым паставіў і прэсу на Беларусі на службу маскоўскім, а не беларускім інтарэсам."[32]

Беларускія публіцысты прыгадвалі час, калі беларуская прэса змагалася за нацыянальныя правы беларускага народу. У чэрвені 1862 году убачыў сьвет першы нумар першай беларускай газэты "Мужыцкая праўда" К. Каліноўскага.[33] Пазьней "Наша Ніва"[34] стварыла сабой цэлую эпоху ў беларускім нацыянальным адраджэньні, званую нашаніўскай.

Аўтары "Бацькаўшчыны" шырока інфармавалі пра **беларускі выдавецкі рух у эміграцыі.** У артыкуле Івана Спадзявайлы *"На чыстым аркушы", або рэдкі фэномэн "рукапіснага друку"*[35] паведамляецца пра прывезенае з ангельскае зоны цэлае "бярэмя рукапісных беларускіх выданьняў". Сярод іх былі рукапісныя газэты, якія выходзілі рэгулярна, зьмяняючы толькі часам свой фармат,

[30] Інстытут Беларусаведы ў Мадрыдзе // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1952. № 17 (96), 27 красавіка. С.12.

[31] Гл. Баршчэўская Ніна. Польска-беларускія моўныя сувязі ў асьвятленьні беларускіх эміграцыйных часопісаў // Acta Polono-Ruthenica (Olsztyn). 1999. T.4. S.182–195; Беларуская культурна-асьветніцкая дзейнасьць у Польшчы на старонках часопіса "Бацькаўшчына" // Acta Polono-Ruthenica (Olsztyn). 2000. T.5. S.75–91.

[32] Вольны М. Сытуацыя прэсы ў Беларусі // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1952. № 21 (100), 25 сакавіка. С.2.

[33] "Мужыцкая Праўда" Кастуся Каліноўскага // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1958. № 24–25 (410–411), 29 чэрвеня. С.5.

[34] 50-я гадавіна "Нашай Нівы" й нашаніўства // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1956. № 47–48, 25 лістапада. С.3.

[35] Іван Спадзявайла. "На чыстым аркушы паперы" або рэдкі фэномэн "рукапіснага друку" // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1947. № 2, 17 лістапада. С.2.

у залежнасьці ад паперы, і назовы – у залежнасьці ад абставінаў.[36] Даволі раўнамерна выходзілі ў эміграцыі студэнцкія выданьні.[37] Узмоцненую актыўнасьць беларусаў у эміграцыі адзначае Ст.Станкевіч. Толькі ў адным месяцы чэрвені 1952 году зьявіліся тры новыя беларускія часопісы.[38] Пачынаючы ад 1952 году пры газэце зарганізавалася выдавецтва "Бацькаўшчына", якое, нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя абставіны, кожны год выпускала па некалькі добра аздобленых найбольш патрэбных і каштоўных беларускіх кніжак, зь якіх зложылася цэлая бібліятэчка.[39] У 1958 годзе выйшла кніга Антона Адамовіча "*Беларуская літаратура ў супраціве саветызацыі*"(у ангельскай мове).[40] Была яна выдадзеная Інстыту-

[36] "Адгалоскі" (3 нумары), "Алярм" (8 нумароў), "Беларус на чужыне" (5 нумароў), "Далі" (2 нумары), "Пералом" (4 нумары), "Раздарожжа" (2 нумары), "Уцякач" (6 нумароў) – усе газэты 1945 г., іхны працяг – "Выгнанец" (16 нумароў за 1945 г. і 23 нумары за 1946 г.); ягоны працяг – "Аглядчык" (44 нумары за 1946 г. і 18 нумароў за 1947 г.). Апрача газэтаў, былі таксама рукапісныя часопісы: "Кагарка" – месячнік крывіцкай думкі, "Нарач" і "Мэта" – часопіс літаратуры-навукі-грамадзкасьці (7 нумароў за 1946 і 5 за 1947г.) ды ў маленечкіх кантычках ад рукі – "Бібліятэчка сучаснасьці".

[37] 26 лістапада 1945 г. выйшаў 1 нумар "Студэнцкіх Вестак", выдадзены Беларускім Студэнцкім Згуртаваньнем у Мюнхэне. Выйшлі яго 2 нумары. Годам пазьней гэтае ж БСЗ перайменавала свой часопіс у "Крывіцкі Сьветач", які павялічыў наклад (з 300 паасобнікаў да 500) і памер (з 8 старонак да 32). Выйшла 8 нумароў. У 1947 г. БСЗ пачало выдаваць "Студэнцкі Кліч". Выйшлі 3 нумары часопісу – за жнівень–кастрычнік 1947 г. (В.Е. Беларускія студэнцкія выданьні // Бацькаўшчына (Мюнхэн) № 44 (528), с. 3.).

[38] "Запісы" Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, "Шарсьцень" – незалежны месячнік гумару й сатыры ды "Каласкі" – месячны часопіс для дзяцей. У 1959 г. пачаў выходзіць квартальны часопіс "Беларуская Моладзь", які выдаваўся ў ЗША, у Нью Ёрку. Ягоным выдаўцом было ЗБМ (Ст.Ст. Новыя беларускія часопісы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1952. № 28 (107), 13 ліпеня. С.4; Беларуская Моладзь // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1959. № 29 (465), 29 ліпеня. С.3).

[39] Належалі да іх: Выбраныя творы Янкі Купалы пад назовам "Спадчына", "Запіскі Самсона Самасуя" Андрэя Мрыя і "Нядоля Заблоцкіх" Лукаша Калюгі, творы Власта (Вацлава Ластоўскага) і паэма Якуба Коласа "Сымон-Музыка", "Зь гісторыі Беларусі" праф. Я. Станкевіча. (На 500 нумар "Бацькаўшчыны" // Бацькаўшчына (Мюнхэн) 1960. № 16 (500), 17 красавіка. С.3; 1954. № 4–5 (186–187), 31 студзеня. С.1; 1954. № 20–21 (202–203), 30 траўня. С.1; 1958. № 45–46 (431–432), 30 лістапада. С.8).

[40] Adamovich Anthony. Opposition to Sovietization in Belorussian Literature. 1917–1957. Munich, 1958. P.204.

там па справах дасьледваньня СССР у Мюнхене. Таксама ў гэтым годзе выйшла друкам у нямецкай мове «Малая Славянская Біяграфія».[41] У 1954 годзе беларусы далучыліся да працы ў мюнхенскім Інстытуце вывучэньня СССР. За 5 гадоў былі выдадзеныя 12 кніг «*Беларускага Зборніка*» ў беларускай мове і 8 кніг у ангельскай мове («*Belorussian Review*”).[42]

Немалую ўвагу дыяспара аддавала пытаньням **беларусізацыі царквы**. Прыгадвалася гісторыя перакладаў Божага слова,[43] стварэньня беларускіх царкоўных расьпеваў на розныя Божыя Службы,[44] адзначалася, што пропаведзі й навучаньне ў беларускай мове працярэбліваюць дарогу роднай мове як у Божы дом, гэтак і ў Родны дом, якім ёсьць незалежная Бацькаўшчына.[45]

“Ідэя царкоўнай і рэлігійнай незалежнасьці вяжацца непадзельна з нацыянальнай незалежнасьцяй кажнага народу, а паняволенага ў васаблівасьці. Змагацца толькі за палітычную й гаспадарчую незалежнасьць свайго народу, а аставацца ў царкоўнай, духовай залежнасьці ад сваіх палітычных і нацыянальных ворагаў – гэта ніякае змаганьне. (...) Незалежнасьць палітычная й нацыянальная мусіць вырастаць з душы народу, з духовай, псыхічнай, культурнай, моўнай, абрадавай, звычаёвай і г.д. незалежнасьці чалавека, зь ягонага маральнага складу, да якога ворагу дабрацца ня так лёгка. І вось царква, як запраўдная выхавальніца чалавека, мае вытварыць гэткі маральны склад чалавека пры дапамозе сваіх выхаваўчых сродкаў.”[46]

[41] Малая Славянская Біяграфія // Бацькаўшчына (Мюнхэн) 1959. № 6 (442), 8 лютага. С.3.

[42] Станкевіч Ст. Інстытут вывучэньня СССР і Беларусы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1960. № 26 (510), 3 ліпеня. С.3–4.

[43] Ясько Д. “Новы Запавет” у беларускай мове // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1949. № 4 (48), 30 студзеня. С.3; Ст.Ст. Сьвятая Эвангэлія і Апостальскія Дзеі // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1955. 19 чэрвеня. С.3.

[44] Куліковіч Мікола. Да пытаньня беларускага царкоўнага пяяньня // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1958. 21 верасьня. С.1; Будзіч А. Да беларусізацыі БАПЦарквы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1960. № 6 (490), 7 лютага. С.1.

[45] А. К. Да пытаньня беларусізацыі БАПЦарквы // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1960. № 10 (494), 6 сакавіка. С.3.

[46] Бутрымовіч І. У справе беларусізацыі нашых цэркваў // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1960. № 19 (503), 8 траўня. С.3.

Беларуская мова ўгрунтоўвалася таксама ў сьведамасьці людзей дзякуючы падкрэсьліваньню ейнага **гістарычнага значэньня й значэньня беларускай дзяржаўнасьці**.[47] Мала які народ здолее пражыць без свае мовы, а бяз мовы ды мінуўшчыны – гістарычнае традыцыі – няздольны да гэтага ніводзін народ. І таму мова й гістарычная традыцыя – найбольш патрэбныя ды найдаражэйшыя скарбы народу.[48]

Беларуская мова, як асобная, пачала складацца яшчэ ў даўнія, пакрытыя сівізной часу, эпохі. Ужо выразна адчуваецца беларуская мова ў такіх юрыдычных старадаўніх помніках, як гандлёвая ўмова 1229 году паміж полацкімі й смаленскімі князямі, з аднаго боку, ды немцамі – з другога (*Смаленская Тарговая Праўда*). Пра старадаўнасьць ужываньня беларускае мовы гаворыць і дыпляматычны ліст (скарга) Рыскае рады канца XIII стагодзьдзя, пісаны віцебскаму князю Міхалу Канстантынавічу. Самастойнае беларускае пісьменства існавала ўжо у XI стагодзьдзі, а ў XII стагодзьдзі зьявіліся выдатныя пісьменьнікі, як, скажам, Клімэнт Смаляціч у Смаленскім Княстве з сваімі *Пасланьнямі*, кніжнік Аўрам Смаленскі – красамоўца другой паловы XII і пачатку XIII стагодзьдзя зь ягонымі летапіснымі зборнікамі, Кірыла Тураўскі ў Тураўскім Княстве зь ягонымі казаньнямі.[49] У часы княжаньня Альгерда ў гадох 1345–1377 беларуская мова была афіцыйна прызнаная дзяржаўнай урадавай мовай. Выдатнымі помнікамі дзяржаўнасьці беларускае мовы зьяўляюцца *Літоўскі Статут* і яшчэ старэйшы *Статут Караля Казімера*.[50]

Першы беларускі друкар ужо ў 1517 годзе выдаў у Чэскай Празе першую друкаваную кніжку ў беларускай мове – *Псалтыр*. Каб зразумець вялікае асьветніцкае значэньне *Псалтыра*, трэба ўспомніць,

---

[47] Гл. Barszczewska Nina. Język a tożsamość narodowa Białorusinów w ujęciu emigracji białoruskiej // Język a tożsamość na pograniczu kultur. Białystok, 2000. S.6–10.

[48] Станкевіч Я. Вячаслаў Ластоўскі // Бацькаўшчына (Мюнхэн). 1954. № 48 (179), 6 сьнежня. С.3–4.

[49] Гл. Надсан Аляксандар. Сьвяты Кірыла Тураўскі // Божым шляхам (Лёндан). 2001. С.56.

[50] У. Гл. Беларуская мова ў гісторыі Беларусі // Пагоня (Зальцбург). 1946. № 3, чэрвень–ліпень. С.36–38.

што па ім вучыліся грамаце. Кнігі, выдрукаваныя Скарынам, былі першымі друкаванымі кнігамі ва ўсёй Усходняй Эўропе. Яны ішлі ў Маскоўшчыну, Украіну, Галіцыю, паўдзённым славянам і нават на заходнеэўрапэйскія рынкі, пашыраючы асьвету й культуру, праслаўляючы гэтым беларускую мову.

Значэньне Ф.Скарыны ды іншых беларускіх друкароў закранаецца таксама ў артыкуле *Сыгналы нашае старое культуры.*[51]

Пісьменьніцкую й перакладніцкую дзейнасьць Ф.Скарыны працягвалі такія беларускія пісьменьнікі XVI стагодзьдзя, як Сымон Будны, што выдаў пратэстанцкі *Катэхізіс* у 1562 годзе, і Васіль Цяпінскі з Полаччыны, які зрабіў пераклад у беларускую мову *Эвангельля*. Васіль Цяпінскі горача жадаў, каб народ беларускі трымаўся свае прыроджанае мовы. Існаваньне гэтакіх пісьменьнікаў сьведчыць, што ў народзе была моцная нацыянальная сьвядомасьць.

На працягу трох з паловай стагодзьдзяў, ад паловы XIV да канца XVII, калі дэкрэтам 1697 году беларуская мова была скасаваная як дзяржаўная мова й пісцам Вялікага Княства Літоўскага было загадана пісаць па-польску, у дзяржаве панавала беларуская мова ды афіцыйна прызнавалася ўсімі дзяржаўнымі дзеячамі за літаратурную, кніжную, дзяржаўную й урадавую мову. Фактычна, да канца XVIII стагодзьдзя беларуская мова ўжывалася як літаратурная. Гэтыя традыцыі пазьней аднаўляліся цэлаю пляядаю беларускіх адраджэнцаў у XIX і XX стагодзьдзях.[52]

Пішучы пра мінуўшчыну Беларусі, аўтары эміграцыйных беларускіх выданьняў у Нямеччыне часта зьвярталі ўвагу на **блытаніну назоваў беларускага народу**, зьвяртаючы гэтым самым увагу чытачоў на багатую традыцыю беларускай нацыянальнасьці.

У артыкуле пад загалоўкам *Не блытаць назову*[53] адзначаецца, што беларусаў у мінуўшчыне называлі крывічамі, дрыгавічамі, палешукамі й г. д., залежна ад таго, дзе хто жыў і як называлася тая частка краіны. З часам гэтыя назовы перасталі ўжывацца дзеля абазначэньня ўсяе нацыі й цэлае краіны.

---

[51] Сыгналы нашае старое культуры // Раніца (Бэрлін). 1944. 26 сакавіка.

[52] У. Гл. Беларуская мова ў гісторыі Беларусі // Пагоня (Зальцбург). 1946. № 3, чэрвень–ліпень. С.38.

[53] Не блытаць назову // Вехі (Віндсбэрг). 1972. № 25, ліпень.

У значэньні нацыі беларускі народ называлі рускімі, ліцьвінамі й беларусамі. Гэтая блытаніна прычыніла вялікую шкоду, бо ўсё зробленае ў пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага цяпер прыпісваецца летувісам, якія ў той гістарычны час не называліся ліцьвінамі, але жмудзінамі. У сваю чаргу дасягненьні з пэрыяду Русі стараюцца залічыць да сваіх дасягненьняў расейцы. У даўнія часы была Русь Кіеўская, была Чырвоная, была й Беларусь, а сёньняшняя Расея ў той пэрыяд называлася Масковіяй і ня мела нічога супольнага з Русьсю, бо 200 гадоў знаходзілася пад татарамі, а цяпер мае прэтэнзіі да цэлай Русі, г.зн. да Беларусі й Украіны.[54]

Менавіта пад уплывам расейскай мовы пайшла блытаніна з назовамі Беларусі й беларускага народу. “Пра гэтую блытаніну назоваў трэба часта прыгадваць, а гэта з той мэтай, каб чужыя народы не прыпісвалі сабе спадчыны беларускай культуры і гісторыі.”[55]

З гэтага кароткага агляду ролі беларускае дыяспары ў захаваньні й разьвіцьці роднае мовы выразна праяўляецца разуменьне тае праўды, што нельга будаваць дзяржаўную незалежнасьць без адпаведнага стаўленьня да нацыянальнае мовы; разуменьне таго, што толькі дзяржаўны статус і шырокае выкарыстаньне беларускае мовы ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця можа загарантаваць мове адпаведны прэстыж. Таму публікацыям пра беларускую мову адводзілася істотнае месца на старонках газэтаў.

Праяўляўся клопат, з аднаго боку, пра становішча роднае мовы ў Беларусі, а з другога – было імкненьне да разьвіцьця яе і ўзбагачэньня ў эміграцыі. Боязь, што беларуская мова на Бацькаўшчыне будзе зрусыфікаваная або нават цалкам выціснута з жыцьця расейшчынай, прычынялася да захаваньня яе ў як мага найчысьцейшай форме на эміграцыі. Чысьціня беларускае мовы, гэтак як і незалежнасьць беларускае дзяржавы, былі асноўнымі каштоўнасьцямі й мэтамі, якімі кіраваліся публіцысты беларускіх эміграцыйных газэтаў.

З пададзеных прыкладаў выразна відаць, што беларуская дыяспара вельмі ўважліва сачыла зьмены ў школьнай сыстэме Беларусі.

---

[54] Не блытаць назову // Вехі (Віндсбэрг). 1972. № 25, ліпень.

[55] Тамсама.

Вялікую ўвагу зьвяртала на тое, у якой мове праходзіць навучальны працэс, з жалем адзначаючы, што беларуская мова адыгрывае ў ім апошняе месца. Знаёмячы чытачоў з артыкуламі ў беларускай савецкай прэсе, выконвала гэтым самым ролю лучніка паміж беларусамі на Радзіме, якія змагаліся за беларусізацыю адукацыйнага працэсу, і беларусамі на эміграцыі, якія праяўлялі вялікі клопат пра захаваньне роднае мовы ў найчысьцейшым варыянце. Сёньня з сумам можам канстатаваць, што, нягледзячы на такія вялікія намаганьні, зьменаў да лепшага ў Беларусі небагата, а шмат дзе русыфікацыйны працэс яшчэ больш паглыбіўся.

Беларуская дыяспара разумела, якое велізарнае значэньне мае родная мова для існаваньня й разьвіцьця цэлага народу. Жывучы ў цяжкіх матэрыяльных умовах, далёка ад Бацькаўшчыны, яна здолела знайсьці сілы й сродкі на выданьне такой вялікай колькасьці часопісаў і газэтаў. Трэба сёньня дацаніць яе высілак, дацаніць тое, што ў час праграмнай русыфікацыі беларускае мовы на беларускіх землях знайшліся людзі, якія ня толькі здолелі расказаць пра гэты злачынны факт іншым народам, але змаглі таксама зрабіць свой унёсак у разьвіцьцё нацыянальнае мовы.

У сёньняшні дзень, калі ў Беларусі, у выніку актуальнай палітыкі працягваецца зьдзек з роднае мовы, напрацоўкі беларускай эміграцыі становяцца ўсё больш істотнымі. Гэта прыклад зусім адваротнага падыходу да аднае з найбольшых нацыянальных каштоўнасьцяў, якой, несумнеўна, ёсьць родная мова. Гэты прыклад у будучыні будзе пераняты сьвядомай часткай насельніцтва Беларусі. Такі працэс вяртаньня да крыніц беларускае мовы, да народных гаворак і адыход ад накінутых сілаю беларускай мове чужых узораў ужо пачаўся. І ў гэтым вялікая заслуга беларускай эміграцыі.

# БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ РАДЫЯЦЫІ І БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯТЭКА ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ – ЛЯ ВЫТОКАЎ ДАБРАЧЫННАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ Ў БЕЛАРУСІ

***Марына Язьневіч***

Адзін з найгалоўнейшых кірункаў дзейнасьці Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі, Англа-беларускага таварыства, бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лёндане – пашырэньне ведаў пра Беларусь у англамоўным сьвеце. Асабліва неабходна гэта стала пасьля Чарнобыльскай трагедыі, калі камуністычнае кіраўніцтва пакінула людзей Беларусі на самавыжываньне. У шмат якіх краінах пачалі стварацца грамадзкія арганізацыі дапамогі пацярпелым рэгіёнам. У 1989 годзе ў Лёндане быў арганізаваны Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі – Belarusian Radiation Relief Appeal. У склад камітэту ўвайшлі сябры ЗБВБ і Англа-беларускага таварыства, у тым ліку – беларусіст Джым Дынглі, старшыня Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі Ян Міхалюк, паэтка і перакладніца Вера Рыч. Старшынёй камітэту быў абраны кіраўнік бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лёндане айцец Аляксандар Надсан. Камітэт меў сваіх прадстаўнікоў у ЗША (айцец Язэп Сіру, настаяцель царквы Хрыста Збавіцеля ў Чыкага), ў Канадзе (Раіса Жук-Грышкевіч), у Аўстраліі (Міхась Лужынскі) і ў Францыі (Міхась Наўмовіч).

Адной з галоўных формаў дзейнасьці камітэту сталі набыцьцё і перавоз у Беларусь неабходных лекавых сродкаў, арганізацыя беспасярэдняй сувязі з шпіталямі і пацярпелымі рэгіёнамі. Арганізацыю транспарту зь лекамі і суправаджэньне дабрачыннага грузу ўзяў на сябе айцец Аляксандар Надсан, які таксама фінансаваў выдаткі на паліва, страхаваньне і найманьне аўтамабіляў.

Пра дзейнасьць камітэту яскрава могуць сьведчыць наступныя лічбы: у першыя гады яго дзейнасьці выдаткі на набыцьцё лекавых сродкаў склалі амаль 22 тысячы ангельскіх фунтаў. У 1992 годзе

былі арганізаваныя два транспарты зь лекамі ў Беларусь – у студзені (гэта быў ужо пяты па ліку канвой) і ў чэрвені. Кошт лекаў чэрвеньскага канвою склаў амаль сем з паловай тысячаў фунтаў. У 1993 годзе ў нашу краіну зноў прыйшоў канвой з дабрачыннай дапамогай. Перадусім гэта былі лекі супраць лейкозных захворваньняў, антыбіётыкі, вітаміны, лекарскія прылады. Гэта быў ужо восьмы прыезд айца Аляксандра Надсана ў Беларусь. Шматразовую візу ён атрымаў ў Парыжы, бо ў Лёндане тады не было беларускага прадстаўніцтва. Дабрачынны груз быў перададзены шпіталям Гомеля і Магілева. У вандроўцы па пацярпелых раёнах а.Аляксандра суправаджала Марыя Міцкевіч. Менавіта гэтым часам нарадзілася думка стварыць у Беларусі дабрачынную партнэрскую арганізацыю, якая б дапамагала разьвязваць пытаньні, зьвязаныя з гуманітарнай дзейнасьцю.

У 1993 годзе (а менавіта 26 красавіка, на сёмыя ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы) у Менску была створаная новая дабрачынная арганізацыя Дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэньня “Сакавік”. З таго часу пачалося плённае супрацоўніцтва бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лёндане, Беларускага камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі і фонду “Сакавік”.

Дзякуючы камітэту былі ўсталяваныя кантакты з асацыяцыяй каталіцкіх сем’яў у Вялікай Брытаніі і паасабнымі брытанцамі, якія хацелі дапамагаць Беларусі. Так завязалася сяброўства з Марсіяй і Майклам Доўэл з Валіі, якія ўжо цягам 10 гадоў бяруць у свае сем’і на адпачынак і аздараўленьне беларускіх дзяцей. Кожны прыезд Марсіі ў Беларусь становіцца сьвятам для беларускіх дзяцей, якім пашчасьціла пабываць у Валіі. Штогод у верасьні з Валіі ў нашу краіну прыходзіць канвой з гуманітарнай дапамогай. Грузы перадаваліся дзіцячым прытулкам у Рэчыцы, Івенцы, шпіталям у Брагіне, Калінкавічах, Бялынічах і г.д. За сваю дабрачыннасьць Марсія Доўэл узнагароджаная Ганаровай граматай Дэпартамэнту па гуманітарнай дзейнасьці пры прэзідэнце Беларусі.

Камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі знайшоў для фонду “Сакавік” яшчэ аднаго партнэра зь Вялікай Брытаніі – Джанэт Вадамс з ангельскага гораду Рай. У Раі мелі магчымасьць пабываць на аздараўленьні беларускія дзеці, мамы з хворымі дзецьмі. Фонд “Са-

кавік" арганізаваў мэдычныя кансультацыі і правядзеньне апэрацыяў у ангельскіх шпіталях. Сіротам зь дзіцячых дамоў рабілі апэрацыі таксама ў Валіі. Сёлета, у жніўні, хірургі Лёнданскага шпіталю зрабілі апэрацыю на сэрцы 9-гадоваму Ігнату, які разам з маці знайшоў часовы прытулак у Беларускай бібліятэцы ў Лёндане.

Дзіцячым фондам "Сакавік" і дабрачыннай арганізацыяй Валіі пры падтрымцы амбасады Злучанага Каралеўства ў Беларусі быў распрацаваны супольны праект "Усьмешка", у рамках якога група брытанскіх лекараў, спэцыялістаў у галіне сківічна-тваравай хірургіі, ад 5 да 15 верасьня 1999 году правялі сэрыю дармовых апэрацыяў і кансультацыяў для дзяцей (у асноўным – для дзяцей-сіротаў), якія маюць ад нараджэньня дэфект вуснаў і паднябеньня.

Кансультацыі і апэрацыі праводзіліся на базе дзіцячай клінічнай лякарні Менскай вобласьці. Галоўная мэта праекту – супольная праца беларускіх і брытанскіх лекараў, знаёмства з найноўшымі мэтадамі правядзеньня апэрацый і распрацоўка далейшых праграм супрацоўніцтва. Рэалізацыя праекту – гэта прыклад агульных намаганьняў урадавых і грамадзкіх арганізацый Беларусі і Вялікай Брытаніі, накіраваных перш за ўсё на паляпшэньне ўмоваў жыцьця і здароўя дзяцей.

Адзін з новых супольных ангельска-беларускіх праектаў – стажаваньне беларускіх вучняў у ангельскіх школах – прадугледжваў наўперад экзамэны па ангельскай і беларускай мовах, бо ахвотных было занадта шмат. Складовай часткай праграмы было знаёмства з музэем і бібліятэкай імя Ф.Скарыны ў Лёндане.

Скарынаўская бібліятэка арганізавала сустрэчу супрацоўнікаў фонду "Сакавік" з адной з ірляндзкіх дабрачынных арганізацыяў. Такім чынам быў пакладзены пачатак плённаму супрацоўніцтву ў гуманітарнай сфэры з ірляндзкімі партнэрамі.

Ірляндзкія арганізацыі апякуюцца дзіцячымі прытулкамі (будаўніцтва, рамонт, гуманітарная дапамога, аздараўленьне дзяцей), падтрымліваюць існаваньне дзённых цэнтраў для дзяцей-інвалідаў. У 2000–2001 годзе фонд "Сакавік" толькі ад Барэнскага Чарнобыльскага праекту, які ўзначальвае каталіцкі манах брат Лім О'Мара, атрымаў 25 гуманітарных грузаў коштам больш за 130 тысяч амэрыканскіх даляраў.

Пашыраецца і культурнае супрацоўніцтва паміж краінамі. У выніку дзень сьв.Патрыка сьвяткуецца ў Менску штогоду, а ў 2000 годзе выйшаў зборнік артыкулаў, прысьвечаны беларуска-ірляндзкім гістарычна-культурным сувязям.

Такім чынам, праца, запачаткаваная Беларускім камітэтам дапамогі ахвярам радыяцыі і Беларускай бібліятэкай імя Ф.Скарыны, разьвіваецца і прыносіць добры плён у Беларусі.

# АЎТАРЫ

**Арнольд Макмілін**

Прафэсар расейскай літаратуры ў Лёнданскім унівэрсытэце. Аўтар вялікай колькасьці артыкулаў і шэрагу кніг, у тым ліку датычных беларускай літаратуры. Яго манаграфія *Belarusian Literature of the Diaspora* выйшла ў 2002 годзе ў Бэрмінгаме.

**Анатоль Грыцкевіч**

Доктар гістарычных навук, прафэсар, загадчык катэдры Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры. Аўтар шэрагу публікацыяў з гісторыі Беларусі. Кіраўнік Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

**Алесь Пашкевіч**

Кандыдат філялягічных навук, дацэнт катэдры беларускай літаратуры XX стагодзьдзя Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Паэт, празаік, старшыня Саюзу пісьменьнікаў Беларусі.

**Віржыні Шыманец**

Доктар, выкладчык Тэатральнага інстытуту Новай Сарбоны (Парыж III). Прадмет дасьледваньняў – узаемадачыненьні культуры й палітыкі. У 2003 годзе апублікавала кнігу *Le théâtre en Biélorussie (fin du XIXéme siécle – années 1920) et Mikola Piniguine, mise en scéne d'un exil* у сэрыі "Беларуская калекцыя" выдавецтва L'Harmattan.

**Марыя Паўла Сурвіла**

Выкладчык Вартбурскага коледжу ў Ўэйвэрлі (Аёва). Прадмет ейных дасьледваньняў – узаемадзеяньне папулярных (рок) жанраў і традыцыйнай музыкі ў постсавецкай Беларусі. Яе кніга *Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Defining the Nation Through Belarusian Contemporary Music* выйшла ў 2002 годзе ў выдавецтве Routledge.

**Лявон Юрэвіч**

Дзейны сябар Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку. Аўтар шэрагу літаратуразнаўчых і гістарычных артыкулаў і кніг, у тым ліку "Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі" (Нью-Ёрк, 1999), "Вырваныя бачыны. Да гісторыі СБМ" (Менск, 2001), "Літаратурны рух на эміграцыі" (Менск, 2002). Узначальвае аддзел падарункаў і абмену Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі.

**Вера Рыч**

Журналістка, пісьменьніца і перакладніца беларускай і ўкраінскай паэзіі. Ейныя асноўныя публікацыі – анталёгія беларускай паэзіі *Like Water Like Fire* (“Як вада, як агонь”, 1971) і манаграфія *The Image of the Jew in Belarusian Literature* (“Вобраз жыда ў беларускай літаратуры”, 1984).

**Марыя Міцкевіч**

Матэматык паводле прафэсіі, выкладчык Інстытуту кіраваньня і прадпрымальніцтва, цягам доўгага часу была супрацоўнікам Скарынаўскага цэнтру ў Менску. Ейны інтарэс у коласазнаўстве не выпадковы: яна ўнучка пісьменьніка. Аўтар шэрагу артыкулаў з гісторыі беларускай літаратуры і эміграцыі.

**Аляксандар Баршчэўскі**

Прафэсар, загадчык катэдры беларускай літаратуры Варшаўскага ўнівэрсытэту.

**Ніна Баршчэўская**

Доктар, выкладчык беларускай філялёгіі ў Варшаўскім унівэрсытэце, кіраўнік беларускай рэдакцыі Польскага радыё.

**Марына Язьневіч**

Кандыдат фізычна-матэматычных навук, да апошняга часу выкладала ў Інстытуце кіраваньня і прадпрымальніцтва ў Менску, супрацоўнік дабрачыннага фонду “Сакавік”.

## CONTRIBUTORS

**Arnold McMillin**

Professor of Russian Literature at London University, author of a number of articles and books. His latest major publication is the monograph *Belarusian Literature of the Diaspora*, Birmingham 2002.

**Anatol Hryckievič**

Professor of Belarusian history at the Belarusian State University of Culture. Author of a number of publications on the history of Belarus, Chairman of the Association of Belarusians «Baćkaŭščyna».

**Aleś Paškievič**

Senior Lecturer at the Belarusian State University, PhD (Philology), literary critic. Poet and novelist. Chairman of the Association of Belarusian Writers.

**Virginie Symaniec**

Lecturer at the Theatrical Institute of the New Sorbonne (Paris III). Specialist on the interaction of culture and politics. Her major publication is *Le théâtre en Biélorussie (fin du XIXéme siécle – années 1920) et Mikola Piniguine, mise en scéne d'un exil*, Collection Biélorussie, L'Harmattan, 2003.

**Maria Paula Survilla**

Assistant Professor of Music at Wartburg College in Waverly, Iowa. Her research includes the interplay between popular (rock) genres and traditional music in post-Soviet Belarus. Her book, *Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Defining the Nation Through Belarusian Contemporary Music* was published by Routledge in 2002.

**Lavon Jurevič**

Fellow of the Belarusian Institute of Belarusian Science and Art (New York), the head of the Department of gifts and exchange of the New York Public Library. Author of a number of articles and books on literary criticism, history of Belarus and the Belarusian Diaspora. His most recent book is *Litaraturny ruch na emihracyi* (*Literary Movement in the Diaspora*, Miensk 2002).

**Vera Rich**

Journalist, writer and translator of Belarusian and Ukrainian literature. Her major publications include: *Like Water Like Fire – an Anthology of Belarusian Literature from 1828 to the Present* (1971) and *The Image of the Jew in Belarusian Literature* (1984).

**Maryja Mickievič**

Mathematician, worked for many years for the Skaryna Research and Education Centre in Miensk. A granddaughter of the Belarusian national poet, Jakub Kolas in whom, not surprisingly, she has a special interest. She is the author of a number of articles on the history of Belarusian literature and the Diaspora.

**Alaksandar Barščeŭski**

Professor and head of Department of the Belarusian Language at Warsaw University.

**Nina Barščeŭskaja**

Lecturer in Belarusian philology at Warsaw University, PhD (Philology); editor-in-chief of the Belarusian service of Polish Radio.

**Maryna Jaźnievič**

Mathematician, until recently taught at the Institute of Management and Business in Miensk, co-founder of Sakavik Charitable Fund.

Навукова-папулярнае выданьне

# РОЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў ЗАХАВАНЬНІ І РАЗЬВІЦЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Матэрыялы Міжнароднай канфэрэнцыі
(Лёндан, 29–30 верасьня 2001 году)

Рэдактар
*Алесь Зьмітровіч*

Карэктар
*Алена Лаўнікава*

Макетаваньне
*Наталя Апанасевіч*

Мастак вокладкі
*Віталь Катовіч*

Падпісана ў друк 27.04.04. Фармат 60х90$^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Times.
Ум. друк. арк. 6,88. Ул.-выд. арк. 7,2. Наклад 250 паас. Замова № 84.
МГА "Белфранс". ЛВ № 156 ад 29.03.01. 220007, Мінск, вул. Ляўкова, 19.
Друк НВК "Тэхналогія". 220007, Мінск, вул. Ляўкова, 19.

